

№ 5 (166)
Люты 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года






## Нарэшце, завітала!..

Зіма завітала ў госці нечакана. У лістападзе... Калі на дрэвах было яшчэ даволі багата цёмна-жоўтай лістоты, яна вырашыла агледзець свае будучыя ўладанні. Некалькі дзён хадзіла па лясах, палях, гарадах і вёсках, засыпала свае сляды снегам — і раптам знікла. Думалася, што не надоўга. Але... Ці не спадабалася нешта, ці заблукала ў дарозе. Толькі доўгі час замест марозу і снегу гаспадарылі дождж, моцны вецер ды слота.

Ужо амаль і не было спадзяванняў яе ўбачыць. Ды раптам. Зіма завітала нечакана. Цяпер не ў госці. А ў свае ўладанні. Выгнала прэч і слоту, і дождж, і моцны вецер. А рэкі, азёры, гарады і вёскі, лясы і палі аддала сцерагчы марозу ды снегу.

Каб гэтак раней. Бо хутка ж завітае, пакуль што ў госці, вясна.

*Ігар ГРЭЧКА,*
*фота аўтара*

## Протабеларуская мадэль свету

У выдавецтве «Беларусь» напрыканцы 2006 года выйшаў накладам 3 000 асобнікаў энцыклапедычны даведнік «Беларуская міфалогія». Выданне другое і дапоўненае, складальнік яго, як і першага (2004 год), Ірына Клімковіч. Другое выданне дапоўнена дапрацаваным алфавітным паказальнікам і ілюстрацыямі.

Аўтары слоўніка ў прадмове запэўніваюць нас, што ў кнізе ўпершыню даецца максімальна поўная на сённяшні дзень карціна протабеларускай мадэлі свету, рэканструкцыя архаічных міфаў. Знайшлося месца на старонках выдання павер'ям і прыкметам беларусаў-язычнікаў, іх замовам, засцярогам.

Над матэрыяламі слоўніка працавалі вядомыя даследчыкі Л. Дучыц, Э. Зайкоўскі, І. Крук, С. Санько, Я. Сахута, А. Цітавец ды іншыя.

## На тым тыдні...

● 25 студзеня 2007 года ў памяшканні Музея гісторыі Беларускага кіно (Мінск, вул. Свярдлова, 4) пачала дзейнічаць выстаўка твораў беларускіх мастакоў тэатра «Сцэнаграфія – 2007». Выстаўка мае характар справаздачы мастакоў-сцэнографаў за 2003–2006 гг.

● У Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь 29 студзеня прайшло мерапрыемства, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння народнай артысткі Беларусі Соф'і Дукер.

● Падвядзенне вынікаў Рэспубліканскага конкурсу дзіцячай і юнацкай творчасці «Адлюстраванні» (асоба Максіма Багдановіча і яго творчасць вачыма дзяцей XXI стагоддзя) прайшло 25 студзеня ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. На конкурс было даслана звыш 350 работ (150 сачыненняў, эсэ, вершаў, а таксама 200 карцін, аплікацый, пано і г.д.). Таму журы, у склад якога ўваходзілі вядомыя беларускія літаратары і мастакі (напрыклад, Васіль Жуковіч, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Мікола Купава), было складана ацэньваць дзіцячыя працы. Як было адзначана, кожная з іх мае цеплыню, сваю асаблівую душу. Пасля прывітальнага слова арганізатараў конкурсу, дырэктара музея, членаў журы, пачалося доўгачаканае. У перапоўненай зале, сярод выставы творчых прац навучэнцаў, пачалося абвяшчэнне прызёраў і іх ўганараванне.

За 3-е месца ўдзельнікам конкурсу выказвалася падзяка, за 2-е – уручалася ганаровая грамата, а за 1-е – дыпломы. Атрымлівалі прызёры і падарункі – зборнікі вершаў Максіма Багдановіча, а таксама своеасаблівыя квіткі-запрашэнні бясплатнага наведвання музея і яго філіялаў на 2 асобы.

Так падзяку за 3-е месца ад мастака Міколы Купавы атрымалі Вікторыя Ворса, Карына Ізмайлава, Сяргей Каленя, Ганна Хлапіцкая, Леў Стэфан; ад літаратаркі Людмілы Рублеўскай – Дзмітрый Андрыеўскі (Вілейка), Алена Галубінская (Мінск), Дар'я Данілевіч (Старобін), Юлія Зайкоўская (Брэст).

Пасля адбыўся невялічкі перапынак-гульня, падчас якога дзеці адгадвалі загадкі. Арганізатары конкурсу зачытвалі ўрыўкі з вершаў Максіма Багдановіча, а дзеці адгадвалі, пра каго гэтыя словы (лясун, вадзянік, страцім-лебедзь, сінякрылы матылёк, зорка Венера, слуцкія ткачыхі і інш.).

Потым былі названы тыя, хто заняў 2-е месца. Сярод літаратурных твораў – Таццяна Анікеенка (Мінск), Алена Дзебіч (Брэст), якая зачытала свой верш, Кацярына Дударчык (Маладзечна), Вікторыя Стручынская (Чэрвень), сярод мастацкіх прац – Алена Бадрова.

За 1-е месца дыпломамі і прызамі былі ўганараваны: сярод літаратурных твораў – вучні з краязнаўчага гуртка вёскі Дварэц Дзятлаўскага раёна (кіраўнік Наталля Міхайлаўна Ляўкевіч), Ірына Салаўёва (Брэст), Дар'я Чарняўская (Мінск), сярод мастацкіх – Ганна Лобіч (Мінск), Сяргей Іванец (Брэст) – пано з каляровага пяску. І гэта далёка не поўны пералік прызёраў.

У канцы мерапрыемства ўсіх навучэнцаў арганізатары конкурсу і супрацоўнікі музея запрасілі на салодкі стол.

Выстава мастацкіх прац навучэнцаў (удзельнікаў конкурсу) будзе адкрыта для наведвальнікаў музея да 1 мая.

● 30 студзеня ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрыта выстава «Металічны вернісаж», на якой прадстаўлены працы мастакоў Беларусі, Літвы, Расіі і Украіны. Гэта сумесны праект музея з Фабрыкай мастацкіх кавальскіх вырабаў «ОСТ» з Віцебска. Імёны аўтараў твораў добра вядомы на іх радзіме і за мяжой. Многія з іх – сябры міжнародных творчых саюзаў, бралі ўдзел у выставах, фестывалях і конкурсах. Гэта вядомыя беларускія кавалі Аляксандр Міхалевіч, Юрась Мацко, Юрый Круш, Зігмунт Сабко, Юрый Фурс, таленавітыя мінскія мастакі Жанета Шыдлоўская і Марына Капілава, старшыня Саюза кавалёў Украіны Сяргей Палубоцька, прызнаны майстар з Літвы Уладас Кузінас і найстарэйшы каваль Расіі Уладзімір Маркаў. На выставе экспануецца малая пластыка, вітражныя кампазіцыі, інсталяцыі, зброя і даспехі, прадметы інтэр'ера, элементы архітэктурнага дэкору, ландшафтная скульптура. Прадстаўлены тут і працы мастакоў з «ОСТ», навучэнцаў і студэнтаў мастацкіх навучальных устаноў Беларусі і Украіны.

Варта дадаць, што ў многіх рэгіёнах і гарадах нашай краіны вырасла цэлая плеяда таленавітых майстроў, якія захоўваюць найлепшыя традыцыі продкаў і ствараюць сучасныя вобразы, адкрываюць новыя стылявыя накірункі, новыя тэхналогіі «мовы зносінаў» з непадатлівым матэрыялам...





**2007: Год Слова Купалы і Коласа**

## «Пад небам Коласа: Нясвіж у жыцці паэта»

Так называецца выстава, што адкрылася 24 студзеня г.г. у карціннай галерэі Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка «Нясвіж». Як кажуць, сама назва гаворыць амаль пра ўсё. Тым больш, што наш чытач мог з № 3 «КГ» зачэрпнуць пэўныя звесткі на аснове дакументальных даследаванняў пра тое, як будучы класік беларускай літаратуры ў 1898–1902 гадах навучаўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі.

Названая выстава дзейнічае ў светлым памяшканні, добра прадуманая па падборы матэрыялаў і па іх размяшчэнні. Глядач можа пабачыць фотавыявы тагачаснага мястэчка (віды замкавых муроў, знакамітай Замкавай вуліцы, будынкаў і краявідаў), семінарыі і яе кабінетаў ды двара (будынак, на жаль, не ацалеў у віхурах часу), выкладчыкаў, ведамасці паспяховасці К. Міцкевіча, а таксама арыгіналы асобных падручнікаў і мастацкіх кніг, якія чыталі семінарысты. Яшчэ можна бліжэй пазнаёміцца з Коласавымі калегамі па семінарыі – у прыватнасці, з тымі, хто не пазбавіўся чалавечай, нацыянальнай годнасці і крыху пазней, улетку 1906-га, прымаў удзел на яго радзіме ў настаўніцкім з'ездзе, дзе яшчэ маладыя хлопцы дамаўляліся наконт таго, якім павінен быць сапраўдны народны настаўнік, што і як рабіць, якія мець правы. Многія з іх пасля стануць прататыпамі герояў трылогіі Я. Коласа «На ростанях» (дарэчы, адзін з удзельнікаў з'езда, І. Фёдараў, пазней стане пісьменнікам Я. Маўрам). Апрача гэтага, можна азнаёміцца з многімі асабістымі рэчамі Я. Коласа, са шматлікімі карцінамі мастакоў, прысвечанымі асабіста яму, ягоным родным мясцінам, сяброўству з Я. Купалам. Вельмі кранальна запыніць позірк на сямейным альбоме настаўніка семінарыі і класнага кіраўніка К. Міцкевіча Л. Лычкоўскага: з яго старонак больш чым праз 100 гадоў глядзяць на нас, сённяшніх, сімпатычныя людзі, у тым ліку і мілыя дочкі гаспадара – першыя слухачкі юнага даследчыка літаратуры і пачынаючага паэта.

*(Заканчэнне на стар. 5)*

## З пачынальнікаў савецкай кінадраматургіі

У «Беларускай Энцыклапедыі» ёсць артыкул пра Аляксандра Рыгоравіча Зархі (нарадзіўся ў лютым 1908 года ў Санкт-Пецярбургу). У 1950–1955 гады працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм». Якраз Аляксандр Зархі паставіў фільм «Несцерка» і фільм-спектакль «Паўлінка». У 1955 годзе ўшанаваны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Рэжысёр, сцэнарыст Зархі двойчы быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй СССР (трэба чытаць – Сталінскай) – у 1941, 1946 гадах. Другія адзнакі: званне народнага артыста СССР, зорка Героя Сацыялістычнай Працы. У фільмаграфіі Аляксандра Рыгоравіча: «Дэпутат Балтыкі», «Член урада», «Ганна Карэніна»...

А вось пра Натана Абрамавіча Зархі ні ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», ні ў «Беларускай Энцыклапедыі» артыкула няма. А між тым, драматург і тэарэтык кіно нарадзіўся ў Оршы – у 1990 годзе. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. З 1923 года працаваў у кіно. Адзін з першых прафесійных кінадраматургаў савецкага кіно. Аўтар 15 сцэнарыяў і 3 п'ес. Вёў педагагічную працу ў Дзяржаўным інстытуце кінематаграфіі ў Маскве. Пяру беларускага Зархі належаць сцэнарыі фільмаў «Асабняк Галубкіных» (1924), «Маці» (1926), «Канец Санкт-Пецярбурга» (другая назва «Пецярбург–Петраград–Ленінград», 1927), «Гарады і гады» (1930), «Бамбіст» (1932).

У 1928 годзе над сцэнарыем фільма «Булат-Батыр» Натан Зархі працаваў сумесна з Юрыем Тарычам. Той год быў вельмі напружаным у біяграфіі беларускага і рускага рэжысёра і сцэнарыста. Юрый Віктаравіч у 1928 годзе стварае (у сааўтарстве) сцэнарыі да трох карцін: «Булат-Батыр», «Свае і чужыя», «Капітанская дачка».

У 1935 годзе Натана Зархі ўшанавалі званнем заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР. А 18 ліпеня таго ж года нашага земляка з Оршы не стала... Нечым лёс Зархі нагадвае жыццё беларускага кінадраматурга Анатоля Вольнага. І ў таго быў неверагодны ўзлёт. Ды так рана абарвалася жыццё! Мо і яны – Зархі і Вольны – дзе перасякліся?..

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

## Пячатка ракаўскага касцёла

***У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе пад № 952 на дакументах 1948 і 1950 гадоў намі былі выяўлены два адбіткі пячаткі Ракаўскага касцёла Маці Божай Ружанцовай. «*ECCLESIA PAROCHIALIS * RAKOW». Адбітак пячаткі значыцца на двух дакументах:***
***1) заява рэлігійнага савета ад 14.10.1948 з просьбай дазволіць ксяндзу Баляславу Лазоўскаму служыць у касцёле і адначасова прызначыць пробашчам ксяндза Станіслава Нацэвіча;***
***2) скарга парафіян на імя упаўнаважанага Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў БССР на зламанне замкоў у касцёле прадстаўнікамі ўлады Радашковіцкага р-на (атрымана 02.09.1950).***




Дадзеная пячатка ўжывалася на працягу, як мінімум, чатырох этапаў гісторыі Беларусі: 1) уваходжання заходняй яе часткі ў склад даваеннай Польшчы (міжваенны перыяд: 1921–1939); 2) інтэграцыі гэтай тэрыторыі ў БССР і СССР (1939–1941); 3) нямецкай акупацыі (1941–1944); 4) пасляваенны перыяд (з 1945). Пячатка была выраблена ў міжваенны перыяд. Цяжка сцвярджаць, ці было гэта ў 1920-я, або ў 1930-я гады. Доказам таго, што пячатка Ракаўскага касцёла была выраблена за «польскім часам», ва ўсялякім выпадку не раней 1918 года, служыць мова, а дакладней мовы, на якіх выканана сфрагістычная легенда. Горны надпіс «ECCLESIA PAROCHIALIS» («КАСЦЁЛ ПАРАФІЯЛЬНЫ») лацінскі, а дольны, «RAKOW», польскі. Такі лацінска-польскі білінгвізм легенды адной пячаткі ў рымска-каталіцкай сфрагістыцы папярэдняга часу сустракаўся толькі як выключэнне. Легенды на пячатках каталіцкіх устаноў XIX стагоддзя выконваліся альбо на лацінскай, альбо на польскай, альбо на рускай мовах. Для касцёльных пячатак XX стагоддзя характэрна вельмі простае афармленне. Іх выяваю быў звычайна чатырохканцовы крыж, а легенда – лацінскай. Па пячатцы Ракаўскага касцёла можна ўявіць, якой была сфрагістыка Касцёла на заходне-беларускіх землях у складзе II Рэчы Паспалітай. Напэўна ж, руская, як і беларуская мовы не ўжываліся: касцёл у «крэсах усходніх» з'яўляўся цалкам польскай установай.

***Рыгор ЖАЎНЯРКЕВІЧ***
***(Паводле «Ракаўскага шляху». 2000, № 5)***

## Ці лёгка навучыцца і навучыць любіць Радзіму?

***Не спяшайцеся з адказам. На свеце ёсць шмат краін з больш цёплым кліматам, багацейшымі прыроднымі ўмовамі, лепшымі матэрыяльнымі выгодамі. Але існуе нешта больш важнае і высокае, чым матэрыяльныя каштоўнасці. Праблемам выхавання грамадзянскасці і патрыятызму быў прысвечаны семінар, які правёў Магілёўскі абласны Цэнтр пазашкольнай работы ў Клічаўскім раёне. Напрыканцы лістапада кіраўнікі гурткоў вобласці гісторыка-патрыятычнага накірунку сталі гасцямі ляснога партызанскага краю.***

Клічаўшчына была выбрана невыпадкова. Гэта старонка з багатым гістарычным мінулым. Школы раёна і пазашкольныя ўстановы маюць добры вопыт у справе грамадзянска-патрыятычнага выхавання. Ды і палымяны даследчык праблем беларускага краязнаўства, першы прафесар геаграфіі Беларусі Аркадзь Смоліч родам з клічаўскіх Бацэвіч. Дарэчы, 115-ю гадавіну з дня яго нараджэння ўрачыста адзначылі гуртkоўцы Цэнтра пазашкольнай работы 27 верасня 2006 года.

Клічаўскі Цэнтр пазашкольнай работы падрыхтаваў сваім гасцям насычаную праграму, у якой імкнуўся паказаць інавацыйныя падыходы да вырашэння такой вечнай праблемы як выхаванне грамадзянска-патрыятычных пачуццяў у сваіх выхаванцаў.

Вучні Пярэкальскай сярэдняй школы, выхаванцы гуртка ЦПР «Юны краязнаўца» (кіраўнік Г.І. Міхнёнак) ведаюць не толькі, што азначаюць дзіўныя словы «кракавяк», «падэспань». Падчас удзелу ў акцыі «Нашчадкі Перамогі» яны знайшлі мясцовых жыхароў-старажылаў, якія расказалі пра цяжкі пасляваенны час, калі прыходзілася ўздымаць вёску з папялішчаў. А вечарамі мясцовы гарманіст браў у рукі гармонік – і куды дзявалася стомленасць!

Разам з мясцовымі артысткамі школьнікі паказалі ўдзельнікам семінара фрагменты такіх старажытных і такіх сучасных танцаў. Ведаць культуру сваёй мясцовасці, яе мастацкую самабытнасць, прапагандаваць яе – гэта таксама элемент выхавання патрыятызму.

Агрэсіўная масавая культура, так шырака распрапагандаваная СМІ, настойліва заваладвае сэрцамі маладога пакалення і нябачна-разбуральна дзейнічае на асобу. Чужыя песні, чужыя танцы, чужыя словы – ці так усё бяскрыўдна, як здаецца? Асабліва, калі чужое настойліва выцясняе сваё, нацыянальнае, разбураючы таямнічую сувязь пакаленняў.

Пра высокі мастацкі густ народных майстроў, вытанчанае пачуццё колераў і формаў разважалі члены гуртка ЦПР «Юныя аматары пяра» (кіраўнік В.М. Нікіціна). Яны даследвалі асаблівасці старажытнага народнага адзення вёскі Паплавы. Зусім нечаканым завяршэннем пасяджэння гуртка стаў выхад гуртkоўцаў у эфектных касцюмах, створаных па матывах народнага мастацтва. Нездарма лепшыя дызайнеры ўсяго свету для стварэння новых калекцый шукаюць ідэі ў глыбінных народных традыцыях. Гэтым прынцыпам кіраваліся і выхаванцы гуртка «Тэатр мод» (кіраўнік Т.А. Самуйлік), калі працавалі над калекцыяй «Вытокі» – прызёрам абласнога конкурсу вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Свае ўрокі дабрыні і светлай памяці ўдзельнікам семінара прапанавала яшчэ адна святыня Клічаўшчыны – Усакінскі мемарыял партызанскай славы. У 2005 годзе гэтаму ансамблю споўнілася 20 гадоў, і майскі нумар «Краязнаўчай газеты» адзначыў гэты факт.

Як жыве гэты цікавы помнік? Аб якіх старонках нашай гісторыі расказвае? Чаму вучыць? На гэтыя пытанні адказвалі выхаванцы гуртка «Музейная справа» Цэнтра пазашкольнай работы і Клічаўскай сярэдняй школы № 1. Экскурсаводы школьнага музея Анастасія Манько і Ілля Мацюшонак спрабавалі свае сілы на маршруце Клічаў–Усакіна. Разам з кіраўніком гуртка яны вялі ўдзельнікаў семінара па гераічных і трагічных сцяжынках Клічаўскай партызанскай зоны. Гуртkоўцы адначасова выконвалі ролі сваіх аднагодкаў – дыверсанткі Алены Колесавай, група якой дзейнічала на тэрыторыі Клічаўскай партызанскай зоны, і партызана-хлебапёка Валодзі Шчытава. Гэты прыём дазволіў «ажывіць» мінулае настолькі, што здавалася – загучалі галасы тых, хто некалькі дзесяцігоддзяў таму абараняў Радзіму ў гэтых лясах, дзяліўся ў блакаду апошнім кавалкам хлеба, паміраў ад ран і перамагаў!

Экскурсія «У партызанскую зону» пабудавана на матэрыялах, якія гуртkоўцы аб'ядналі агульнай тэмай сваіх даследаванняў – «Малавядомыя старонкі гісторыі». Шкада, што ў апошнія гады плынь турыстычных груп, якія цікавіліся б старонкамі ваеннага мінулага нашага партызанскага краю, значна паменшыўся. І гэта таксама адна з сур'ёзных праблем выхавання.

***Падводзячы вынікі семінара, намеснік дырэктара Магілёўскага Цэнтра пазашкольнай работы Я.М. Давыдзенка падкрэсліла, што ў рабоце па грамадзянска-патрыятычным выхаванні шмат праблем. І толькі творчы падыход да іх вырашэння, пошукі нестандартных інавацыйных падыходаў могуць прынесці жаданы вынік.***

***Лідзія АЧЫНОВІЧ,***
***кіраўнік гуртка «Музейная справа» Клічаўскага ЦПР***

## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ТЫКОЦІНСКІ МАНЕТНЫ ДВОР** (па назве населенага пункта Тыкоцін – зямля Падлессе, дзе знаходзіўся двор). У 1566 г. выпусціў у свет літоўскі паўгрош і грош (пра гэтыя азначэнні «КГ» пісала раней). Манеты адрозніваліся ад такіх жа наміналаў Віленскага манетнага двара выявай на іх правым баку герба Ястжэмбец, які належаў уладальніку Тыкоцінскага манетнага двара С. Мышкоўскаму.

**ТЫТУЛЬНЫ ЛІСТ СТАТУТА.** Усе тытульныя лісты кірылічных выданняў Статута ВКЛ 1588 г. (1592–1593, 1600), якія выйшлі ў друкарні Мамонічаў у цэлым аднатыпныя. У верхняй частцы тытульнага ліста разам з дэкаратыўным раслінным абрамленнем выгравіраваны вяззю загаловак кнігі – «Статут Великого князства Літовского», ніжэй простым шрыфтам набраны 4 радкі тэксту, дзе ёсць звесткі пра тое, што гэта афіцыйны характар прынятага зводу законаў ад імя «найсней-шага гаспадара». У цэнтры старонкі – адбітак дзяржаўнага герба ВКЛ у абрамленні гірлянды з лісця. У ніжняй частцы ліста – 9 радкоў курсівам – цытаты з Бібліі аб праведных судзе і суддзях, а таксама звесткі пра выхадныя дадзеныя. Год друкавання выдання не пазначаны. Знешне Тытульны ліст Статута ВКЛ 1588 г. нагадвае крыху ранняе выданне (1586) Мамонічаў – «Трыбунала абываталям Вялікага княства Літоўскага», дзе таксама загаловак кнігі заключаны ў лісцевую гірлянду, але цэнтральная ксілаграфія больш складаная, трохчасткавая, уключае выявы двух гербаў – Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, увенчаных асобна выгравіраванай каралеўскай каронай. Тытульны ліст Статута мае больш складаную гарманічную мастацка-графічную сістэму, асноўным цэнтрам якой з'яўляецца герб ВКЛ «Пагоня». Па форме гэты сюжэт нагадвае вазу для кветак.

У навуковай і бібліяграфічнай літаратуры сустракаюцца звесткі, што тытульны ліст І-га выдання Статута не захаваўся і вядомы па факсімільных аднаўленнях яго ў працах многіх выдатных ягоных даследчыкаў. Факсімільныя выданні захаваліся за межамі Беларусі. Як сцвярджаюць знаўцы, варыянты адрозніваюцца асаблівасцямі набору загалоўка кнігі і цытат з Бібліі. На тытульным лісце 2-га выдання Статута ў выхадных дадзеных ёсць памылка, дзе гэта надрукавана.

Тытульныя лісты кірылічных выданняў Статута ў беларускім кнігадрукаванні больш не аднаўляліся, але зрабілі пэўны ўплыў на мастацкае афармленне друкаванай кнігі XVII ст.

*У 2005 годзе выйшаў трохтомнік «Скрыжалі памяці». Яго склалі творы амаль 50 пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. Прыкладна пяць гадоў я аддаў на падрыхтоўку гэтага выдання. Атрымаўся вялікі і унікальны збор літаратурных тэкстаў. Кажучы словамі Варлена Бечыка, «няма цаны гэтай спадчыне, бо подпісы пад ёю... зроблены крывёю сэрца». У трохтомніку ўпершыню надрукаваны адшуканыя на старонках даваеннай перыёдыкі і ў беларускіх архівах творы, эпісталярныя матэрыялы. А галоўнае, вернуты з забыцця імёны асобных літаратараў. Яны з розных рэгіёнаў Беларусі, прыйшлі ў нашу літаратуру ў даваенны час, хоць не кожны паспеў выдаць нават першую кніжку. Усіх пісьменнікаў яднае агульны трагічны лёс: жыццёвы шлях абарваўся дачасна, яны не спраўдзілі мары, запаветныя жаданні, творчыя задумы.*

# Пра хлопцаў самай вялікай вайны

Пошукавая праца пасля выхаду трохтомніка не прыпынілася. Засталіся «белыя плямы». Прадчуваючы гэта, Казімір Камейша ў сваім водгуку на «Скрыжалі...» напісаў: «Ахоплена як быццам усё, але тым не менш многія старонкі... усё ж засталіся невядомымі і будуць чакаць сваёй чаргі, каб калі-небудзь патрапіць да свайго чытача. Магчыма, згубленае некалі адшукаецца» («Полымя». 2006, № 5. С. 125). Я ведаў, што пошук трэба працягваць у маскоўскіх сховішчах, дзе найбольш поўна захаваліся зборы даваеннай перыёдыкі. Разумеў, што справу неабходна давесці да лагічнага завяршэння і зрабіць дзеля вяртання спадчыны пісьменнікаў, якія згарэлі ў полымі вайны, усё, што магчыма. Каб «сплаціць доўг» памяці, улетку я выправіўся ў Маскву. Тыдзень працы ў філіяле Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, што месціцца ў г. Хімкі, прынёс знаходкі.

**Рыгор Суніца – творчы псеўданім Рыгора Ціханавіча Лынькова.** Нарадзіўся ён у 1909 г. у чыгуначнай будцы каля вёскі Старое Сяло на Рагачоўшчыне. З дзяцінства пасля смерці маці ім апекаваўся родны брат Міхась Лынькоў, які, калі стаў галоўным рэдактарам бабруйскай акруговай газеты «Камуніст», падтрымліваў яго на творчым шляху ў беларускую літаратуру.

Рыгор Суніца актыўна друкаваўся на старонках «Камуніста». Так, у 1926–1927 гг. у газеце было змешчана каля дваццаці яго вершаў: «Мы пад старасць...», «Пярэстасць ранняя», «Хай завеі...», «Нашы ж сэрцы...», «Пасля грому і зыркай маланкі...» і інш. У гэтых творах увасоблены тагачасны настрой маладога пакалення: радасць, аптымізм, душэўны ўздым. Пачынаў пісаць Рыгор Суніца як тыповы маладняковец. Звяртаюць увагу адметныя вобразныя асацыяцыі ў радках паэта:

*...Дух наш, верце,*
*Скача баскетболам,*
*І спружыніць*
*цела, бы*
*футбол!*

Ён імкнуўся да арыгінальнасці, раскаванасці думкі, выверанасці рытму верша. Так атрымалася, што год паэт не друкаваўся, маўчаў, а ў 1929-м падаў голас са старонак «Вясны» – літаратурнага дадатку да газеты «Камуніст». У вершы «Белы птах», жанр якога пазначаны як «фізкультурная песня», ён дэманструе віртуознае валоданне сродкамі гукапісу:

*Не хістайся, белазубая,*
*Не танцуй...*
*Не танцуй...*
*Па камандзе слухай музыку:*
*У ланцуг!*
*У ланцуг!*
.....................................
*Горды ж поступ перад сцэнаю –*
*Птаха ўзлёт! –*
*Птаха ўзлёт! –*
*Пакажы, як неацэнную*
*Сілу – лёт!*
*Сілу – лёт!*

Паэт клапаціўся пра адмысловую форму і страфіку верша. У дыптыху «З уласнага», які складаюць два трыялеты, паэт шчыра спавядаецца, дасягае эмацыянальна афарбаванага лірызму. Свет вясковы і ўрбаністычны паўстаюць побач у вершы «Здалося!..». Рыгор Суніца ўяўляе горад на світанні як чароўны прывід «у туманах белых»:

*Паміж красак росных*
*тэлефон званіў,*
*І гудок фабрычны салютаваў ранню...*
*Страсанула жыта кропелькі расы,*
*І туман растаў пад шум калоссяў,*
*Пырснула у вочы ружавая просінь...*
*А ля рэчкі дрэмлюць пяць асін...*

Рыгор Суніца актыўна выступаў у друку як перакладчык. Пераклады твораў А. Пушкіна і А. Міцкевіча, «Жалезнай дарогі» М. Някрасава, «Скіфаў» А. Блока могуць пасведчыць пра яго патэнцыяльныя магчымасці ў перастварэнні іншамоўных тэкстаў. Найчасцей ён звяртаўся да творчасці рускіх пісьменнікаў. Свае пераклады друкаваў у розных выданнях, і досыць часта ў газеце «Літаратура і мастацтва», у рэдакцыі якой з 1936 па 1941 год працаваў адказным сакратаром. Мастацкі пераклад зрабіўся для паэта апантанай творчай працай.

Паэт Рыгор Суніца загінуў на фронце ў 1941 годзе.

Адзін з забытых пісьменнікаў – **Тодар Курбацкі.** Творы яго параскіданы па старонках даваеннага друку, у «Скрыжалях» змешчана толькі невялікая доля з напісанага ім. Родам з мястэчка Карма, што на Гомельскім Палессі. Вучыўся ў Магілёўскім белпедтэхнікуме, скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Працаваў настаўнікам у Хойніках. Вельмі цікавы факт: Тодар Курбацкі вучыў будучага класіка нацыянальнай літаратуры Івана Мележа. Іван Паўлавіч у гутарках з некаторымі пісьменнікамі прыгадваў свайго настаўніка ў Хойніцкай дзесяцігодцы, аднак нічога не ведаў пра яго далейшы лёс. Настаўнік адчуў літаратурныя здольнасці Івана Мележа, як толькі пазнаёміўся з яго першымі творамі. Асобныя з вершаў ён прапаноўваў у друк. Зноў цікавы факт: калі І. Мележ працаваў у Хойніцкім райкаме камсамола, у літаратурным кутку «Бальшавіка Палесся» (1939, 2 крас., 24 мая) былі надрукаваны яго вершы поруч з творамі настаўніка – «Лёс песні» і «Дарагой».

Творчы шлях Тодара Курбацкага пачынаўся з публікацый у абласной газеце «Бальшавік Палесся», якая выдавалася ў Мазыры. Пазней яго творы змяшчаліся і на старонках часопіса «Полымя рэвалюцыі», газеты «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва» і інш. У «Бальшавіку Палесся» надрукаваны вершы Т. Курбацкага на розныя тэмы. Пісаў ён і пра грамадскае, і пра асабістае. У яго творах – адбітак часу і жыцця. Паэт гаварыў так, як яму думалася і адчувалася, выяўляў чалавечыя настроі, думкі, пачуцці. Гэтак, як і Р. Суніца, ён у абладзе «дум сталёвых», захапляецца, як «Гудуць, абуджаючы далі, // Сталёвым нутром трактары» («Вясна пачалася»). З яго вершаў паўстае Беларусь сялянская, калгасная, працоўная. Ён апявае будні і святы, а таксама хараство родных мясцін, палескіх краявідаў. Але найперш яму важна раскрыць радасныя і прыгожыя пачуцці людзей-працаўнікоў – пачуцці, якія надаюць сапраўдны сэнс зямному існаванню. Вяскоўцы, героі яго вершаў, замілавана аглядаюць «поле... шырокае, як неба» («Абход зямлі»), «дзяцей сваіх... да сэрцаў туляць з пачуццём» («Вечарам»), яны жывуць, працуюць, кахаюць і мараць. Паэт перадае адначасова і свае ўражанні. А вось адна з яго лірычных песень кахання:

*У танец першы ты стайкаю гожаю*
*Стройных хлопцаў, дзяўчат павяла.*
*Каб цябе мець за жонку – прыгожая! –*
*Ёсць ахвотнікаў паўсяла.*
*Хто ж такою разважнай дзяўчынаю*
*Не ўсхвалюе пачуццяў сваіх.*
*Незнаёма ты з чорнай кручынаю,*
*Весялейшая ты ад усіх.*

Маладосць спявала пра каханне, радасць жыцця. Аднак у перадваеннай атмасферы напярэдадні вайны паэт, здаецца, прадчуваў свой лёс, непазбежнае (верш «Край мірны мой...»). Як стала вядома, жыццё Т. Курбацкага абарвалася на фронце, незадоўга да Перамогі, 15 студзеня 1945 года.

У суровых баях палеглі Аркадзь Гейнэ, Уладзімір Рагуцкі, Сяргей Крывец, Уладзімір Ясючэня і іншыя беларускія паэты, асобныя творы якіх мне пашэнціла адшукаць у апошні час. Яны пакінулі нам у спадчыну свае натхнёныя вершы, у якіх і сёння можна адчуць іх голас душы, жывы пульс сэрца.

Ніжэй прапаную ўвазе чытачоў «Краязнаўчай газеты» творы Рыгора Суніцы і Тодара Курбацкага.

***Алесь БЕЛЬСКІ***

## *З забытай спадчыны*

***Рыгор СУНІЦА***

### З уласнага

I

*Патанула душа ў летуценнях,*
*Нібы зорка у небе ў пагоду.*
*Мары цягнуць журбу ў павуценне...*
*Патанула душа ў летуценнях.*
*Сэрца думцы выказвае згоду*
*Вечна цвісці пярэстым квіценнем.*
*Патанула душа ў летуценнях,*
*Нібы зорка у небе ў пагоду.*

II

*Сэрца з радасці рвецца з грудзей,*
*Затрымаць, закілзаць – няма сілы!*
*Жыццё шчасцем душу ўскаласіла.*
*Сэрца з радасці рвецца з грудзей.*
*Па-над сумам стаіць крыж пахілы.*
*А у будучым – столькі надзей!..*
*Сэрца з радасці рвецца з грудзей!*
*Затрымаць, закілзаць – няма сілы!*

*1926 г.*

***Тодар КУРБАЦКІ***

### Край мірны мой...

*У час сустрэчы – прывітанне*
*Вам, палеткі і сяло.*
*Прыгадаў у гэта ранне,*
*Як маленства тут прайшло.*
*Тут хадзіў к рацэ з сябрамі*
*Плесці кошыкі з лазы.*
*Двух сяброў над паплавамі*
*Не пачую галасы...*
*Успамяні бацькоўскім словам*
*Двух сыноў, край мірны мой,*
*За цябе ў баях суровых*
*Паў з іх кожны, як герой.*
*...Каля берага гамоняць*
*Хвалі чыстыя, бы шкло.*
*І здалёк відаць, як тоне*
*У садах маё сяло.*
*Тут калісь пад ветрам, громам*
*Пасвіў коней і кароў,*
*Сэрцу блізкі і знаёмы*
*Кожны кусцік, кожны роў.*
*У баях, калі ад дыму*
*Пацямнее небакрай,*
*Я успомню луг радзімы,*
*Гэта поле, гэты край.*

*1940 г.*
*Хойніцкі раён*

**Ад рэдакцыі.** ***Алесь Бельскі падараваў нам аб'ёмісты трохтомнік «Скрыжалі памяці», дзе дбайна ўклаў вершы, прозу, публіцыстыку тых нашых землякоў, хто хораша ішоў у літаратуру, але, на вялікі жаль, загінуў у час Другой сусветнай вайны. У гэтым нумары мы змяшчаем новыя дапаўненні складальніка анталогіі, а неўзабаве бліжэй пазнаёмім чытачоў з вялікай і пачэснай працай пісьменніка і навукоўца Алеся Бельскага над вышэйназваным трохтомнікам.***



# Дзяржаўны маёнтак Айна

*Дасылаю працяг матэрыяла пра сваю Гайну. Сёлета спаўняецца 620 гадоў з часу заснавання Ягайлам касцёла ў Гайне (1387) і столькі ж гадоў з часу першага ўпамінання пра вёску ў пісьмовых крыніцах. Днём яе нараджэння можна лічыць 15 жніўня. Заснаваны Ягайлам у Гайне касцёл – Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі. На працягу некалькіх стагоддзяў вельмі шанаваліся абразы «Успенне» і «Дзева Марыя Гайнаўская». Каталікі свята Успення Найсвяцейшай Дзевы Марыі адзначаюць 15 жніўня. А яшчэ ў гэты дзень кожны год на працягу некалькіх стагоддзяў у Гайне праводзіўся кірмаш, які аб'ядноўваў і каталікоў, і праваслаўных, і яўрэяў. Можа, хто ўзгадае іншую дату. Галоўнае, каб мае землякі не засталіся абыякавымі і хоць нейкім чынам узгадалі пра гэта, аддаючы даніну павагі сваёй гісторыі, сваім продкам.*

Гайна (Айна) стала дзяржаўным маёнткам у 1512 г. Вялікі князь прызначыў туды часовых намеснікаў – «дзяржаўцаў», старастаў. Вялікія князі выкарыстоўвалі права раздачы староставаў у палітычных мэтах. Феадалы імкнуліся як мага даўжэй пратрымаць староства ў сваім родзе. З 1562 г. уладальнікі староства ўносілі ў дзяржаўны скарб на ўтрыманне войска кварту – 1/4 частку чыстага даходу, з 1775 г. кварта падвоена. Першым на пасадзе айнаўскага дзяржаўцы ў 1516–1524 гг. упамінаецца мясцовы шляхціц Яцка Іванавіч Ратомскі. З 1525 г. айнаўскім намеснікам быў пан Васіль Багданавіч Чыж, з 1538 г. – пан Мікіта Андрэевіч, з 1541 г. – князь Іван Васільевіч Саламярэцкі, а з 1552 г. – яго брат Багдан, які валодаў воласцю да перадачы яе Васілю Цішкевічу ў 1563 г.

Айнаўская воласць («дзяржава») у пачатку XVI ст. ахоплівала, верагодна, даволі значны абшар – ад мяжы маёнтка Бяларуч на поўдні да правабярэжжа Дзвіносы і Віліі на поўначы. У далейшым, аднак, амаль уся яна распалася на шляхецкія маёнткі ў выніку раздачы зямель баярам. У воласці здаўна знаходзіліся надзелы («службы») так званых панцырных баяр, за карыстанне якімі яны павінны былі з уласным узбраеннем станавіцца ў войска. Такія баяры маглі мець уласных сялян, або самі апрацоўвалі зямлю, а ў выпадку вайны ўтваралі асобны вайсковы надзел («пошт») свайго гаспадара. У маёнтку Айна, пакуль ён належаў унучцы князя Андрэя, панцырныя баяры мелі статус прыватнаўласніцкіх. Пасля таго, як Айна перайшла да вялікага князя, становішча баяр змянілася – яны сталі дзяржаўнымі падданымі, на якіх распаўсюджваліся ўсе шляхецкія прывілеі.

Пачатак XVI ст. быў складаным у жыцці як усёй дзяржавы, так і Лагойшчыны. Перамога пад Оршай не спыніла маскоўскай агрэсіі, і ваенныя дзеянні працягваліся да 1522 г. Падчас гэтай вайны ў 1519 г. рускае войска прайшло праз Лагожаск, Айну, Краснае і Маладзечна. Напэўна, такі рэйд прынёс вялікія разбурэнні на зямлю Лагойшчыны, якая яшчэ не паспела ачуняць пасля татарскай навалы царэвіча Махмет-Гірэя ў 1505 г.

Паводле «Попісу войска ВКЛ» 1528 г., у якім вызначаўся памер поштаў, якія павінны былі выстаўляць са сваіх вотчын паны і князі, а таксама пайменны пералік баяр-шляхты па кожным дзяржаўным маёнтку, да двара Айна Менскага павета адносіліся 12 дзяржаўных баяр, якія выстаўлялі 14 узброеных коннікаў прыкладна ад 224 «дымоў» (сем'яў). У складзе Айнаўскай воласці, акрамя служылай шляхты, былі і паны. У «Попісе» 1528 г. яны выступаюць не ў складзе харугвы айнаўскага двара, а ў агульным спісе «по-





Краявіды Гайны з касцёлам Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі (паводле малюнка Н. Орды)

чот панов рад, урядников, также дворян господарских и некоторой шляхты значнейшей». Адным з буйных маёнткаў былі ўладанні Віленскага біскупства. У адрозненне ад шляхецкіх маёнткаў, падданыя не выстаўлялі ў войска коней, а абкладваліся падаткам.

У капітульных маёнтках Лагойшчыны разам было каля 260 зямельных надзелаў, якімі валодалі, напэўна, асобныя сялянскія сем'і. Патрэбна мець на ўвазе і сялянскія сем'і, якія належылі парафіяльнаму касцёлу і праваслаўнай царкве ў Айне. Можна меркаваць, што сялянскіх сем'яў на тэрыторыі тагачаснай Айнаўскай воласці налічвалася больш за паўтысячы, аднак раскіданыя яны былі на значным абшары. Цікава, што прозвішчы жыхароў, якія сустракаюцца ў «Попісу войска ВКЛ» 1522 і 1567 гг., часткова захаваліся і да нашага часу. Гэта Жыляніны, Уладыкі, але ж большасць з іх захаваліся ў назвах мясцовасцей. Так, Звярына і яго нашчадкі, напэўна, мелі дачыненне да вёскі Звярынічы, Жыляніны да вёскі Жыляне (сённяшнія Жылічы), ад Пасляковічаў захаваліся назвы мясцовасцей – Песляkоўшчына і Песлячышын лес, ад Шырая пайшло Шараёва. У часы айнаўскага намесніка князя Івана Васільевіча Саламярэцкага ў 1545 г. упершыню ўпамінаецца праваслаўная царква Св. Архангела Міхаіла ў Айне, у якую ён прызначыў святаром айца Дзмітрыя. Як бачым, праваслаўная царква ў Айне была задоўга да яе першага ўпамінання. Напэўна, землі, што належылі храму, былі ў тым месцы, якое і сёння яшчэ называюць Папоўшчынай. На думку стваральнікаў кнігі «Памяць» Лагойскага раёна, Айна, як і Лагойск, у той час ужо мела статус мястэчка.

Мабыць, так яно і было. Аднак, паводле іншых крыніц, гэта адбылося крыху пазней. Гайна стала дзяржаўным мястэчкам, цэнтрам староства ў Мінскім павеце пасля адміністрацыйнай рэформы 1565–1566 гг., Лагойск стаў называцца мястэчкам з канца XVI ст. Толькі ў 1588 г. шляхта дабілася скасавання абмежаванняў на будаўніцтва прыватнаўладальніцкіх мястэчак. На маю ж думку, дазвол на прыватнае мястэчка Васіль Цішкевіч мог атрымаць ад Жыгімонта Аўгуста яшчэ ў 1569 г. разам з тытулам графа «на Лагойску і Бярдзічаве». Такім чынам, Гайна, як і Лагойск, адносяцца да населеных пунктаў на тэрыторыі Беларусі, якія адны з першых атрымалі назву мястэчка. Гайна – тыповае для свайго часу мястэчка гатычнай забудовы з двума цэнтрамі: гандлёвай плошчай і касцёлам з дваром «дзяржаўца». Архітэктурна-планіровачная структура мястэчка без істотных змен захавалася да нашага часу. Гандлёвая плошча даволі значных памераў. Цяпер яе частку займае малады парк, у розныя бакі ад яе адыходзіць пяць вуліц. Сваё прызначэнне плошча захавала і да нашага часу. Не цяжка ўявіць сабе, што тут было гадоў 300–400 таму, бо забудова гэтых частак мястэчкаў была амаль аднолькавай. На плошчы размяшчаліся гандлёвыя рады, якія складаліся з крамаў і памяшканняў для захоўвання тавараў, у час кірмашу таксама гандлявалі на плошчы з вазоў. На супрацьлеглых баках плошчы стаялі царква і сінагога, валасная ўправа, заезны двор, карчма, магла стаяць і школа. Вуліцы, якія адыходзілі ад плошчы ў розныя бакі, бліжэй да яе былі забудаваны майстэрнямі і крамамі. У дамах-крамах жылі шаўцы-краўцы, цесляры, крупадзёры, ганчары, пекары, цырульнікі. Большасць з іх былі яўрэі. У мястэчку здаўна былі вытворчыя пабудовы: вадзяны млын, конныя малацілкі і крупадзёркі, цагельня, кузні. Далей ад цэнтра, на ўскраінах, жылі сяляне. Яны выконвалі розныя павіннасці, мелі гаспадарку. Часта яны наймаліся да гандляроў, вазілі ім дровы, вадзілі абозы з таварамі: з Мінска прывозілі сукно, з Бабруйска – камень, цэглу, соль. Частка тавараў дастаўлялася па рацэ з Барысава, па рацэ сплаўлялі і лес. Непадалёк ад гандлёвай плошчы яшчэ і сёння можна ўбачыць грамадскі свіран (магазін), напэўна, самы стары будынак у вёсцы, які захаваўся. З дзіцячых гадоў засталіся ў маёй памяці вялікія драўляныя крыжы, якія стаялі пры ўездзе ў вёску і на скрыжаванні дарог.

У XVI ст., паводле валочнай памеры, многія вёскі пачалі ўзбуйняцца. Некаторыя сем'і выходзілі з іх і ўтваралі новыя вёскі. Так побач з Гайнай узнікла вёска Слабада. Часта яе называлі Слабадой гайнаўскай, доўгі час існавала тэрытарыяльная адзінка – Гайна-Слабадская воласць.

Пра гэту вёску я не мог не ўзгадаць, бо яна – радзіма славутага нашага земляка, народнага паэта Беларусі Ніла Сымонавіча Гілевіча, яго брата, пісьменніка, перакладчыка Міколы Сымонавіча Гіля (сапр. Гілевіч). Хацелася б добрым словам прыгадаць і іх родную сястру – Ідэю Сымонаўну Багдановіч, якая выкладала мне ў школе рускую мову і літаратуру. На вялікі жаль, у росквіце гадоў і творчых сіл пайшла ад нас у іншы свет.

З 1563 г. Гайнай валодаў Васіль Цішкевіч (Тышкевіч), які за 6 тысяч коп грошаў атрымаў яе ў заклад, быў ваяводам падляшскім, з 1569 г. – ваяводам смаленскім. Пасля яго смерці ў 1571 г. гайнаўскім намеснікам стаў яго сын – Астафій Серафім Тышкевіч, які быў кашталянам смаленскім у 1589 г., старостам гайнаўскім і здзітаўскім, памёр без нашчадкаў у 1590 г. З 1598 па 1603 гг. дзяржаўцам мястэчка і староства быў Крыштоф Радзівіл Пярун, камандуючы войскам ВКЛ падчас Лівонскай вайны, удзельнік вызвалення Полацка ў 1579 г.

Населеных пунктаў сучаснага Лагойскага раёна, адлюстраваных на карце 1613 г., 7: 6 мястэчак (Гайна, Далькавічы, Камена, Крайск, Лагойск, Плешчаніцы) і адно сяло – Астрошыцы. У 1604 г. жыхары Гайны далучыліся да Брэсцкай уніі 1596 г. Першая палова XVII ст. у гісторыі Лагойшчыны была параўнальна спакойным і эканамічна спрыяльным перыядам. Гайнаўскімі намеснікамі ў гэты час былі Мікалай Сапега (1605–1638), каралеўскі сакратар, харужы ВКЛ у 1627–1638-я, ваявода мінскі ў 1638-м і брэсцкі ў 1638–1642-я, яго сын Томаш (1638–1646). У 1654 г. пачалася чарговая вайна з Расіяй. З 1655 да 1660 гг. уся тэрыторыя Лагойшчыны была занята рускімі войскамі. Ваенныя дзеянні, выкліканыя імі эпідэміі і анархія, прывялі да жудаснага спусташэння. Як сцвярджаюць дакументы, ва ўсім Гайнаўскім старостве (належала Юрыю Літавору Храптовічу) засталося 28 дымоў, пуставала больш за палову ворнай зямлі, трэцяя частка гаспадарак засталася без гаспадароў, каля 70 % сялянскіх хат стаялі пустыя.

Адраджэнне праходзіла вельмі марудна, бо на працягу наступных 100 гадоў звестак пра жыццядзейнасць мястэчка і воласці захавалася вельмі мала. Вядома, што ў 2-й пал. XVII ст. Гайнай валодалі пан Кімбар і яго зяць Д.У. Цеханавецкі. Не спрыяла хуткаму адраджэнню і тое, што ў гэты час пачалі змяняцца асноўныя гандлёвыя шляхі з захаду на ўсход, цяпер яны пралягалі больш на поўдзень, праз Мінск, Гайна засталася ўбаку. За гады Паўночнай вайны (1700–1721) Беларусь была арэнай галоўных бітваў рускай і шведскай армій, страціла каля 700 тысяч чалавек насельніцтва. Не абмінула гэта навала і Лагойшчыну. У 1706 г. войска Карла XII цалкам разбурыла Лагойскі замак, і з таго часу ён ужо не аднаўляўся.

У 1720 г. граф Тышкевіч (напэўна, гэта быў Аляксандр) заснаваў касцёл у Лагойску, хацеў аднавіць стары драўляны храм у мястэчку Гайна, але перашкодзіла смерць. Ёсць звесткі, што прыкладна ў гэтыя ж гады фундатаркай касцёла ў Гайне была Ганна Катажына Радзівіл. Цікавымі дакументамі па гісторыі нашых населеных пунктаў з'яўляюцца інвентары. Напрыклад, у кнізе «Ці ведаеце вы гісторыю сваёй краіны?» надрукаваны тытульны ліст інвентара гайнаўскага староства Менскага ваяводства за 1765 г. на польскай мове. На жаль, цалкам тэкст гэтага інвентара я пакуль не бачыў. Толькі ў 1781 г. (па іншых звестках, у 1796) князь Цыдзік пабудаваў новы магутны мураваны храм у мястэчку Гайна, які быў асвечаны ў 1788 г. біскупам (жмудскім суфраганам) Тадэвушам Букатым. Белакаменны храм у стылі барока ўяўляў сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку з двума пакрытымі бляхай купаламі. Унутраная прастора 4 слупамі была падзелена на 3 нефы. У інтэр'еры было ўстаноўлена 5 алтароў, у галоўным з якіх размяшчаўся абраз «Успенне», у бакавых – «Св. Міхаіл», «Св. Казімір» і інш. Вельмі шанаваўся абраз «Дзева Марыя Гайнаўская». Храм меў памеры: даўжыня з 4-яруснай званіцай 16 сажняў, вышыня 15 сажняў (1 сажань – 2,1336 м), найбольшая шырыня 28 аршын, вышыня да карніза 20 аршын (1 аршын – 0,711 м). Над шатамі званіцы і гонтавым дахам узвышаліся невялікія купалы. А тынкаваныя і пабеленыя фасады чляніліся 20 вокнамі і 3 дзвярамі. У касцёле быў арган, пад касцёлам знаходзілася крыпта. Будынак хоць і быў пабудаваны з дрэва 200 гадоў таму, меў значныя памеры і прывабны выгляд. Яшчэ 5 гадоў таму ў ім размяшчаліся памяшканні гайнаўскай школы-інтэрната.

***Анатоль ВЕРАМЕЙ,***
***г. Мар'іна Горка***



# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



(Працяг. Пачатак у № 3, 4)

## Маленства

Загучна сказана? Можа, і так. Але Янка (Янук, Ясь, як называлі яго ў сям'і) Луцэвіч не стаў бы Янкам Купалам, каб змоладу належна не асэнсаваў былы шлях сваіх папярэднікаў, спазнаўшы, што не ўсе там былі гулякі, нячысцікі-выраджэнцы, непрыяцелі свайго люду. Больш – многія з іх шчыра і дбайна клапаціліся пра сваіх падданых, сыходзячы з таго, што і яны – «божыя людзі». Зусім не выпадкова пазней Я. Купала напіша верш-гімн «А хто там ідзе?» ды сцвердзіць на ўвесь свой паэтычны талент, на ўвесь свет: гэты натоўп-гурт хоча і мае права «людзьмі звацца...»

1890 г. Сям'я Луцэвічаў перабіраецца ў Мінск. Янка вучыцца ў прыватнай падрыхтоўчай школе, дзе пажылы настаўнік (таксама, мабыць, каб падзарабіць, – на той час сённяшні «рэпетытар») рыхтаваў гурт вучняў для паступлення ў розныя навучальныя ўстановы.

1891–1895 гг. Луцэвічы – на арэндаванай імі зямлі ў фальварку Прудзішча Беларуцкай воласці Мінскага павета. Янка працягвае вучобу ў вандроўных настаўнікаў, якія шукаюць працы і заробку, у розных мясцінах (Аўгустова, Слабодка, Гаяны, ваенны лагер пад Мінскам, хутар Мачаны), што сведчыць пра неадольнае жаданне бацькоў «вывесці яго ў людзі» – найперш тым, што сэканоміць сямейныя сродкі і даць яму адукацыю. Ды паступіць Янку ў аўтарытэтнае на той час Мінскае рэальнае вучылішча не ўдалося, хоць яго для паступлення рыхтаваў сын самога дырэктара гэтай навучальнай установы. Той падрыхтоўшчык, Ул. Самойла (1878–1941), пазней стаўся беларускім і рускім публіцыстам, літкрытыкам, адным з заснавальнікаў кніжнага таварыства «Мінчук», а ў 1905-м паспрыяў Я. Купалу надрукаваць першы верш на беларускай мове, супрацоўнічаў з «Нашай Нівай», падтрымліваў беларускасць у буржуазнай Польшчы, даследаваў творчасць беларускіх пісьменнікаў.

1895 г. Янка знаёміцца з жыхаром маёнтка Бяседы Вілейскага павета С. Чаховічам – былым выпускніком Пецярбургскага універсітэта, удзельнікам паўстання супраць царызму 1863 г., паплечнікам К. Каліноўскага. Гаспадар гасцінна дазволіў дапытліваму юнаку знаёміцца з ягонай багатай бібліятэкай, дзе былі найперш творы сусветнай літаратуры. Мабыць, пазней, у сталінскія часы, калі і над ім вісеў смяротны «меч рэвалюцыі», Я. Купала асцерагаўся выказваць тыя станоўчыя ўплывы. Але можна зразумець, што і ў падлеткавым узросце пачуў, што такое Полацкая зямля, ВКЛ, Люблінская унія 1569 года, паводле якой пачалося знішчэнне беларускасці ў сённяшняй Беларусі. Падзел яе ў XVIII ст. і знаходжанне ў складзе Расійскай імперыі Я. Купала таксама асэнсуе.



Алімпіяда Сонцава, першая настаўніца Купалы

## «Пад небам Коласа: Нясвіж у жыцці паэта»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2)

Падрыхтаваную супрацоўнікамі Коласавага музея ў Мінску выставу адкрыў дырэктар Нясвіжскага нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка В. Сталярчук, прывітальнае і прыязнае слова сказаў старшыня Нясвіжскага райвыканкама І. Макар. Пасля сваімі думкамі пра жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа, пра выставу падзяліліся сын песняра, доктар тэхнічных навук Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, дырэктар Коласавага музея З. Камароўская, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Анатоль Зэкаў, Навум Гальпяровіч. У сваім выступленні зямляк Якуба Коласа пісьменнік Генрых Далідовіч, звяртаючыся да шматлікіх прысутных настаўнікаў, бібліятэкараў, краязнаўцаў і журналістаў, заклікаў усіх не чакаць высокіх пастаноў, да ўшанавання 125-гадовых юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа падыйсці без кампанейшчыны і творча. Напрыклад, тая ж тэма: Нясвіж і Колас. Што, скажам, можа замінаць настаўнікам Коласавыя радкі з паэмы «Новая зямля», датычныя таго, што Антось «Нясвіж лічыў Парыжам», абраць тэмай для вольных сачыненняў навучэнцаў. Каб адказаць на гэтае пытанне, хіба можна абысціся без даследавання, што і калі было ў Нясвіжы? А чаму і іншым глыбей не вывучыць, калі, як і дзеля чаго адкрывалася настаўніцкая семінарыя, ды менавіта тут? А артыкул «Семинаристы из народа» выкладчыка і Коласавага дабрадзея Ф. Кудрынскага, які даў сваю ацэнку нясвіжскаму краю, яго насельнікам і іхнім дзецям-семінарыстам? Лепшае з даследаванага можна было б адзначыць, надрукаваць не толькі ў раённым друку (ад цікавых, змястоўных матэрыялаў і «КГ» ніколі не адмаўлялася). У гэтым выпадку, канечне, найлепш было б знайсці названы артыкул Ф. Кудрынскага ў «Вестнике воспитания» № 1 за 1902 год і прачытаць усе 50 старонак. Ды, каб не ставіць непасільнай задачы, можна абысціся выдадзенай у 1982 годзе ў выдавецтве «Навука і тэхніка» кнігай дакументаў і матэрыялаў «З жыццяпісу Якуба Коласа» (укладальнік Г. Кісялёў). Дарэчы, гэта датычыць не толькі нясвіжцаў: вось такія падыходы ўсюды спрыяюць сістэмней і паўней спазнаваць як агульную, так і сваю, у тым ліку і мясцовую, гісторыю, людскія побыт, норавы і звычаі, этнаграфію, фальклор, краязнаўства, што ўсё разам узятае складае Радзімазнаўства, а яно выхоўвае патрыятызм і духоўнасць.

## Нам пішуць

***Піша вам пастаянная чытачка, падпісчыца і аўтар «Краязнаўчай газеты». Вы пішаце, каб чытачы выказвалі свае меркаванні наконт сваёй газеты – вось я і адгукнулася гэтым допісам. Спадзяюся, вы не пакінеце яго без увагі. Жадаю вам добрага здароўя і творчага настрою!***

*Хачу выказацца пра газету, якая мне падабаецца. Я вельмі паважаю «КГ» і ўвесь рэдакцыйны калектыў за такі ўзровень працы. Тут і глыбокія веды, і высокі патрыятызм, і гуманнасць, культура, павага да роднага краю, да нашых мовы, культуры, народа. Добра, што вы апісваеце нястомную працу Вялікіх людзей, нашых суайчыннікаў, грунтуючы публікацыі на гістарычных фактах.*

*Але вельмі крануў ваш зварот да чытачоў пра падпіску і падтрымку выдання. На мой погляд, няма больш цікавага і патрэбнага краязнаўчага выдання, чым вашае (і нашае, беларускіх чытачоў).*

*Мне ж падабаюцца розныя рубрыкі ў газеце – пастаянныя «Малая краязнаўчая энцыклапедыя», «Кароткі слоўнік краязнаўча-прававой тэрміналогіі беларускай старажытнасці», «Наша гісторыя: падзеі, асобы, факты», расповеды пра краязнаўчую экспедыцыю навучэнцаў «Наш край», пра традыцыйныя «Каласавіны», з цікавасцю знаёмлюся з працаю сучасных краязнаўцаў, нешта новае даведваюся пра славутых асобаў нашай мінуўшчыны (і дзіўлюся, што не ўсё мы яшчэ ведаем і пра знакамітых асобаў, не кажучы пра менш вядомых). Цікавая і вартая падтрымкі вашая новая рубрыка «2007: Год Слова Купалы і Коласа».*

*Вельмі прыемна, што склалася добрая сувязь «Краязнаўчай газеты» з бібліятэкамі і маладымі чытачамі. Дапамагае, па-мойму, тут і рубрыка «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры». Не выпадкова пры бібліятэках працуюць краязнаўчыя гурткі (і не толькі ў Прылепскай бібліятэцы Смалявіцкага раёна, якая летась стала пераможцам аднайменнага конкурсу).* ***Такія энтузіясты – якраз аснова працы краязнаўчага таварыства, якое ўсё ж варта ствараць, варта прыкласці ўсе намаганні. Мае словы пацвярджае артыкул загадчыцы Жлобінскай РЦБС Ніны Карпавай «У пакоі роднай кнігі». Яна вельмі ўдзячная «Краязнаўчай» за дапамогу ў яго заснаванні.***

*Не магу не спыніцца на артыкуле Аляксея Турынскага «...Я мімаволі ўспамінаю і ў той куток імкнуся зноў», прысвечаны маёй Пухавіччыне. Аўтар піша пра выдатныя традыцыі правядзення Коласаўскіх дзён у нашым раёне. Якуб Колас летаваў шмат гадоў у нашых вёсках Балачанка, Вусце, Беразянка, Талька і іншых. Тут ён напісаў многія свае творы. У розныя гады на Пухавіччыну на Коласаўскія дні прыязджалі знакамітасці: Казімір Камейша, Генрых Далідовіч ды іншыя. Заўсёды з нагоды ўрачыстасцяў добрым словам адгукаецца раённая газета «Пухавіцкія навіны». Тут друкаваліся таксама вытрымкі са школьных сачыненняў пра Я. Коласа. Настаўнік і краязнаўца Браніслаў Зубкоўскі напісаў пра асобу класіка шэраг артыкулаў. Ва ўсіх мясцінах нашага раёна, звязаных з творцам, усталяваныя памятныя дошкі. Асобнае месца яму адведзена і ў нашым краязнаўчым музеі, сельскіх і школьных бібліятэках.*

***Яніна ШЭЛЕГ,***
***ветэран педагагічнай працы, пас. Габрыелеўка Пухавіцкага раёна***

(Працяг. Пачатак у № 3, 4)

## Юнацтва

Адпаведна, патрэбен такі настаўнік, які паправіць становішча на лепшае. «Таким учителем обещает быть Мицкевич, – упэўнены дырэктар семінарыі, – который, по отзыву педагогического совета семинарии, человек весьма серьезный, самостоятельный, знает хорошо местную природу и крестьянский быт, любит крестьянство и даже изучает его...» Выхаванца накіроўваюць працаваць на Палессе (але пачынае сваю працу не там, куды яго спачатку пасылалі, а ў іншым месцы – у вёсцы Люсіна Пінскага павета Мінскай губерні). Знаёміцца з тамтэйшымі народным побытам, звычаямі і норавамі, фальклорам, піша вершы. У тым ліку і на беларускай мове (пазней, у аўтабіяграфіі (1926) ён адзначыць, што тыя вершы, што былі перапісаныя ў асобны сшытак, знікнуць у цягнік.

## Настаўніцкая і грамадская праца

Захаваліся вельмі цікавыя і на сённяшні дзень успаміны вышэйзгаданага выкладчыка Якуба Коласа ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Ф. Кудрынскага «Семинаристы из народа». Яны (з падзагалоўкам «Заметки педагога») былі надрукаваныя ў 1902 годзе ў часопісе «Вопросы воспитания» і мелі 50 старонак тэксту.

«Фактическое и более или менее обстоятельное решение вопросов: что собственно движет крестьянских детей в учительскую семинарию? – задаваў сабе і іншым пытанне той педагог. – Как они на нее смотрят? Чего ждут и что получают?» І далей расказвае, што, трапіўшы на працу ў семінарыю, намагаўся спазнаць жыццё беларускіх сялян – тагачасных носьбітаў беларускай мовы, а таксама асэнсаваў каля 80 пісьмовых адказаў на свой запыт. Яго здзівіла, што некаторыя «мальчуганы из деревенской избы» ў 12–15 гадоў далі даволі грунтоўныя адказы.

Яго ўразіла, што многія беларускія сяляне жадалі не толькі таго, каб іхнія сыны атрымалі пачатковую ці сярэднюю адукацыю, а жадалі значна большага. Каб іхнія нашчадкі былі прыдатныя да атрымання вышэйшай адукацыі і пасля мелі магчымасць не засяроджвацца на малазямеллі ды на «отсуствии фабрик, малоразвитости промыслов» (а гэта была палітыка царскага ўрада, каб не рабіць Беларусь высокаіндустрыяльнай, а трымаць яе як сельскагаспадарчую калонію). Цытуе, напрыклад, прызнанне аднаго навучэнца: «*Причиной моему поступлению в семинарию была крайняя нужда. Так как отец бедный, земли имеет немного... а мне делать дома не было чего, я, не желая идти служить, решился поступить в семинарию*».

Ф. Кудрынскі аналізуе, хто і з якіх вёсак найбольш імкнуўся трапіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Былі і такія, што ў сваім маладым узросце пісалі ўжо стала: «Я не хотел быть убогим пасынком природы, а хотел быть человеком более образованным... Я воображаю себя народным учителем, который ничего не жалеет для блага своих собратьев, всю жизнь трудится и по смерти оставляет в народе хорошую память».



Нясвіжская настаўніцкая семінарыя

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





***Адным з прыярытэтных накірункаў дзейнасці бібліятэк Бярэзінскага раёна з'яўляецца краязнаўства, бо дазваляе ўплываць на развіццё пачуцця дачынення кожнага чалавека да лёсу сваіх землякоў, любові да роднага краю, яго мінулага, жывога інтарэсу да сучаснага жыцця і адказнасці за будучыню, садзейнічае выхаванню адказнасці за прыроднае і гісторыка-этнаграфічнае асяроддзе, у якім мы жывём. Арганізаваны пастаянныя інфармацыйна-краязнаўчыя цэнтры ў цэнтральнай і дзіцячай бібліятэках, краязнаўчыя пакоі ў Новінскай, Любушанскай сельскіх бібліятэках, краязнаўчыя куткі ў іншых бібліятэках, дзе размешчаны выставы аб розных старонках жыцця роднага краю. Акрамя кніжных і часопісных матэрыялаў, прадстаўлены летапісы вёсак, гаспадарак, бібліятэк, папкі газетных выразак краязнаўчай тэматыкі, альбомы з фотаздымкамі, копіі краязнаўчых матэрыялаў, карты-схемы, інфармацыйныя матэрыялы, якія бібліятэкарамі раёна назапашваліся на працягу многіх гадоў.***




Добрым дапаўненнем да краязнаўчага фонду бібліятэк з'яўляюцца краязнаўчыя картатэкі, якія адлюстроўваюць матэрыялы аб краі. Цэнтральнай бібліятэкай складзены спіс фондаўтваральнай літаратуры краязнаўчага ядра бібліятэк раёна «Пра Бярэзінскі край».

На базе Мікуліцкай СБ аформлены этнаграфічны куток «Беларуская хатка», дзе пастаянна дзейнічае выстава «Забытыя старыя рэчы», на якой прадстаўлена звыш 20 экспанатаў, экспанавалася выстава папяровых грошай «Ад "каценькі" – да "зайчыка"», калекцыю якіх прапанаваў І.Л. Жукоўскі. У краязнаўчым пакоі Любушанскай СБ першым сустракае чытачоў самаробны манекен жанчыны ў нацыянальным адзенні з прасніцай і куделяй. Гэта своеасаблівы помнік вясковай жанчыне-працаўніцы, носьбіту самабытнай абраднасці і культуры, знаўцу народных фальклорных песень. Экспануецца пастаянная выстава рэчаў сялянскага побыту канца XIX пачатку XX стст. «Спадарожнікі сялянскага жыцця». Сабраны картатэка мясцовых народных умельцаў, слайд-банк маляўнічых мясцін вясковых ваколіц «Мілей за ўсё мясціны родныя».

У бібліятэках раёна ужо стала традыцыяй правядзенне выставак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, на якіх дэманструюцца вырабы народных умельцаў і майстроў. Гэта дае магчымасць вельмі шырокаму колу гледачоў пазнаёміцца з творчасцю таленавітых землякоў. Спадабаліся наведвальнікам Новінскай СБ выставы народных умельцаў «Бляск залацістай саломкі», ручнікоў А.М. Пешка «Хатняя вясёлка», работ членаў прыбібліятэчнага клуба «Умеліца», «З народных арнаментаў», на якой былі прадстаўлены вышываныя ручнікі і пано, прадметы рэліквій вясковага побыту «Новінская скарбніца».

У актавай зале цэнтральнай бібліятэкі экспанавалася выстава творчасці кіраўнікоў гурткоў раённага Цэнтра дзіцячай творчасці А.Л. Сяліцкай, Н.Я. Казлоўскай, І.А. Харытонавай, А.В. Сямашка пад назвай «Сухвецце творчасці – усім на здзіўленне». Былі прадстаўлены работы па цестапластыцы, інкрустацыі, аплікацыі з саломкі, аплікацыі з тканіны, падручных матэрыялаў, лялькі, батык (роспіс па шоўку), макрамэ. Творы майстроў уразілі наведвальнікаў выставы багаццем фантазіі, шчырасцю і майстэрствам выканання.

У дні, калі праходзяць выставы, бібліятэкі наведваюць не толькі чытачы, а і мясцовае насельніцтва. Усе выставы выклікаюць цікавасць, карыстаюцца папулярнасцю, спрыяюць духоўнаму ўзбагачэнню, паляпшаюць эмацыянальны настрой, аб чым сведчаць словы ўдзячнасці ў кнігах водгукаў.

Пастаянна паглыбляецца сувязь з творчай інтэлігенцыяй горада і раёна. Прапагандуецца творчасць мастакоў. Цэнтральнай бібліятэкай была арганізавана выстава карцін з мастацкай галерэі земляка «Гімн роднай прыродзе» – паэта і мастака-аматара, супрацоўніка рэдакцыі раённай газеты «Бярэзінская панарама» Ул. Несцяровіча. Аўтар прадставіў на суд гледачоў больш за два дзесяткі работ.

Жывая, зацікаўленая размова ішла ў час сустрэчы «Паэтычная хваля Бярэзіншчыны ў літаратурным моры сусвету» з вядомай зямлячкай Гертрудай Шчур, якая была пераможцам Міжнароднага літаратурнага конкурсу «Падарожжа прыходзіць само» (сярод прадстаўнікоў сталага ўзросту). Арганізатарамі конкурсу былі цэнтры культуры ў польскім горадзе Кжэшыцы і нямецкім Фюрстэнвальдзе, а куратарамі – міністэрствы культуры Польшчы, Германіі і Беларусі. Адбылася прэзентацыя зборнікаў літаратурнай творчасці Г. Шчур «Мая сталіца» і «Свет без вайны і насілля», выдадзеных аддзелам маркетынгу ЦБ. Госця падзялілася сваімі ўражаннямі ад паездкі ў Польшчу, прачытала вершы.

Такім чынам, наведвальнікі бібліятэкі могуць не толькі атрымаць літаратуру, але і пабыць на выставах, пазнаёміцца з творчасцю землякоў, сустрэцца з імі.

Бібліятэкі мэтанакіравана працавалі ў напрамку літаратурнага краязнаўства. Сабраны змястоўны матэрыял па творчасці самабытных паэтаў і празаікаў, які змешчаны на асобных паліцах «Пішуць бярэзінцы» ў краязнаўчых кутках бібліятэк.

Цэнтральная бібліятэка актыўна займаецца выдавецкай дзейнасцю. Падрыхтаваны і выдадзены шэраг зборнікаў літаратурнай творчасці землякоў, кніг і брашур краязнаўчай тэматыкі, у якіх знаходзяць адлюстраванне знамянальныя даты, культурныя, літаратурныя, гістарычныя падзеі з жыцця раёна, дасягненні і поспехі славутых землякоў. Так, за два гады цэнтральнай бібліятэкай самавыдавецкім варыянтам выпушчана 15 зборнікаў. Першым пабачыў свет літаратурны зборнік «Дзе гамоніць Бярэзіна». У ім шырока прадстаўлены вершаваныя і празаічныя творы мясцовых пісьменнікаў, паэтаў і знакамітых выхадцаў з Бярэзінскага раёна, вядомых людзей, чый лёс так ці інакш быў звязаны з Бярэзіншчынай. Усе яны расказваюць пра бярэзінскія мясціны, пра жыццё, пра справы бярэзінцаў, пра змены, якія адбыліся на роднай зямлі. За мінулы год сабраны матэрыял пра славутага кампазітара М. Равенскага «Музычная зорка Бярэзіншчыны на небасхіле сусвету», ураджэнца в. Капланцы; звесткі пра вядомага земляка – гісторыка па адукацыі, следапыта-краязнаўцу С.С. Ігнатовіча, якія ўвайшлі ў другі выпуск серыі «Даследчыкі малой Радзімы»; інфармдаведнікі па творчасці пісьменнікаў-землякоў, юбіляраў 2006 года: да 95-годдзя П.М. Рунца, былога настаўніка Сялібскай школы, да 70-годдзя І. Маркевіча, ураджэнца в. Вопава, да 75-годдзя П.Н. Дзюбайлы, ураджэнца в. Кукарава, на аснове якіх амаль ва ўсіх бібліятэках раёна прайшлі краязнаўча-літаратурныя гадзіны. Публікуецца матэрыял і на старонках раённай газеты ў рубрыцы «Гонар Бярэзіншчыны».

Захаваць літаратурную спадчыну Бярэзінскага краю, зберагчы сваё роднае, адметнае, непаўторнае беларускае слова, перадаць нашчадкам – мэта і надзея бібліятэкараў раёна. Шэраг цікавых мерапрыемстваў адбылася на працягу Тыдня літаратурнага краязнаўства. Запамінальнымі і змястоўнымі сталі гадзіны паэзіі «Льюцца вершы, як вада з крыніц» у Мікуліцкай, Высокагорскай, Вяшэўскай, Гарэніцкай, Каменаборскай, Ушанскай СБ; «Паэтычны гімн таму краю, дзе гамоніць Бярэзіна» ў Арэшкавіцкай, Чыжахскай СБ; «Зорка таленту – зорка паэзіі» ў Брадзецкай, Дзмітравіцкай, Лагаўскай СБ з прэзентацыяй зборнікаў літаратурнай творчасці масцовых аўтараў. Цікава прайшлі прэзентацыі выпускаў біябібліяграфічных выданняў ЦБ «Даследчыкі малой радзімы», «Ім дзякуй кажа родны край!» у Новінскай, Мікуліцкай, Пагосцкай, Ушанскай СБ.

Выклікаюць цікавасць у чытачоў Гарэніцкай СБ цыклы ўрокаў краязнаўства і гадзін фальклору «Усе дарогі – ад парога», «Жыццё – праспяваная песня», «Песня з кнігай пераклікаюцца», «Старым – не забыцца, маладым навучыцца», «Матуліны песні і калыханкі», «Бабульчын куфэрак», «Страдаўнія дзіцячыя гульні» і інш.

У рамках раённага агляду-конкурсу «Мая бібліятэка» Гарэніцкая сельская бібліятэка замацавала ўласную місію ў сучасным грамадстве, у сацыяльна-культурным жыцці раёна як бібліятэка-скарбонка мясцовага фальклору. На працягу многіх гадоў бібліятэкар Надзея Рыгораўна Слабко з'яўляецца пастаяннай удзельніцай фальклорнага гурта «Лучына» вёскі Гарэнічы. Яе намаганнямі шмат гадоў пры бібліятэцы дзейнічае фальклорны гурт «Крынічка» для падлеткаў, якія знаёмяцца з народнымі традыцыямі, спяваюць песні, адраджаюць гульні сваіх прабабак і прадзедаў.

Бібліятэкі раёна праводзяць таксама мерапрыемствы, якія садзейнічаюць адраджэнню і захаванню народных свят і абрадаў, развіццю народных традыцый, культуры беларусаў. Менавіта на адраджэнне і вяртанне народу нацыянальнага беларускага аблічча былі накіраваны святы «Каляда-Калядзіца» ў Арэшкавіцкай, Мікуліцкай СБ, «Калядуй – ды хлеб жуй» у Вяшэўскай СБ, «Прыйшлі каляды – усе людзі рады» ў Косаўскай СБ, «Шчодры вечар, добры вечар» у Паплаўскай СБ, «А ў нас Масленіца» ў Каменаборскай СБ, «Таямніцы купальскай ночы» ў Сялібскай, Новінскай, Мікуліцкай, Каменаборскай СБ, якія рыхтаваліся і праводзіліся ў цесным кантакце з мясцовымі Дамамі культуры і клубамі. Пры гэтым шырока выкарыстоўваўся мясцовы краязнаўчы матэрыял.

Новінская СБ – актыўны арганізатар і ўдзельнік усіх святаў і абрадаў, якія праводзяцца сумесна з мясцовым Домам культуры: Каляды, Вялікдзень, Сёмуха, Купалле. Акрамя традыцыйных народных святаў, бібліятэка разам з Домам культуры праводзілі «Зажынкі», «Дажынкі», кірмашы, свята вёскі. Поўнае узаемапаразуменне і максімальную падтрымку мясцовага савета знайшлі бібліятэкар і загадчык Новінскіх СБ і СДК, калі рыхтавалі свята вёскі Новіны, якое прайшло ў раёне першым этапам абласнога фестывалю вясковай культуры «Жыве мая вёска».

Вялікую ўвагу ўдзельнікаў свята прыцягнуў стэнд «Вёска Новіны на старонках друку», падрыхтаваны бібліятэкарам. Тут многія мелі магчымасць пабачыць сябе альбо сваіх сяброў і знаёмых, прачытаць пра іх у сабраных за шмат гадоў публікацыях розных выданняў. Новінская бібліятэка з'яўляецца цэнтрам духоўнасці па краязнаўству для чытачоў і жыхароў зоны абслугоўвання, а сама бібліятэкар – Галіна Кіклевіч лічыцца на вёсцы майстрыхай-вышывальніцай, якая валодае яшчэ і кулінарнымі талентамі, таму на свяце вёскі ёй урачыста прысвоена званне лепшай гаспадыні.

Ёсць простая ісціна: народ, які не ведае сваю гісторыю, не мае перспектывы. Маладыя чытачы бібліятэк – гэта будучыня нашага народа. Таму пры Новінскай, Мачаскай, Мікуліцкай, Міхалёўскай, Арэшкавіцкай, Багушэвіцкай СБ працуюць краязнаўчыя, краязнаўча-літаратурныя, краязнаўча-этнаграфічныя, краязнаўча-экалагічныя гурткі, членаў якіх аб'ядноўвае любоў і цікавасць да гісторыі і культуры сваёго роднага краю, да яго зберажэння дзеля будучых нашчадкаў. Удзельнікі клубаў удзельнічаюць ў краязнаўчым пошуку, дапамагаюць збіраць мясцовы матэрыял, праводзіць масавыя мерапрыемствы.

Далучэнню малодшых школьнікаў да краязнаўства спрыялі краязнаўчыя ўрокі, гадзіны, інфарміны, гульні, вікторыны «Страдаўнія дзіцячыя гульні», «Побыт дзяцей у мінулым» і інш.

***Уся работа вялася комплексна і спалучала прапаганду краязнаўства, літаратуры, роднай мовы, народнай творчасці, фальклору, традыцыяў і звычаяў роднага краю.***

*Наталля МАЕЎСКАЯ,*
*метадыст Бярэзінскай ЦБС*

**Парада ад «КГ».** *Дазвольце параіць вам, шаноўныя бібліятэкары – руплівцы захавання нашай нацыянальнай спадчыны, звярнуць увагу яшчэ на адну тэму, якая павінна быць блізкаю вам, – тэму захавання памяці пра зніклыя вёскі вашага раёна, пра надзею на тое, што гістарычныя назвы гэтых вёсак будуць нейкім чынам мемарыяльна ўшанаваны разам з прозвішчамі іх жыхароў. Гэта тэма – краязнаўчая, патрыятычная. Яе можна вырашаць разам з мясцовымі саветамі, школамі, музеямі.*





***Ёсць гарады і населеныя пункты, аб якіх няшмат пісалі гістарычныя хронікі, у бітве за іх не вырашаўся лёс народаў. Кожны з іх мае свой лёс. Вялікая гісторыя чалавечай цывілізацыі складаецца з маленькіх гісторый асобных гарадоў, вёсак і людзей.***

***Наша размова пойдзе пра вёску Прывалка, якая зараз уваходзіць у склад Гожскага сельскага Савета Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці. Вёска знаходзіцца за 30 км ад Гродна.***

***Прывалка размешчана на беразе Нёмана, акружана маляўнічымі палямі і лугамі, да якіх з усіх бакоў падступае лес (былая Гарадзенская пушча). Каля самой вёскі знаходзіцца старое рэчышча Нёмана і затока.***

***Найбольш раннія звесткі пра Прывалку ў метрычных і шлюбных кнігах перыяду 1740–1765/69 гадоў.***

# ВЁСКА з магдэбургскім правам

Існуе некалькі варыянтаў паходжання назвы вёскі Прывалка. Вялікая даліна, якая знаходзіцца каля вёскі, нарадзіла легенду аб прыгожым Райгарадзе. Гэтая легенда найбольш распаўсюджана сярод мясцовых старажылаў. Паданне сведчыць, што на месцы даліны ў глыбокай старажытнасці існаваў Райгорад. Яго жыхары не былі добрапрыстойнымі і таму горад праваліўся пад зямлю, а праз шмат стагоддзяў на краі «правала» ўзнік горад Правалка – Прывалка.

Другая легенда гаворыць вось аб чым: недалёка ад вёскі ў лесе ёсць вал, ён амаль не захаваўся, але некаторыя старыя людзі памятаюць, дзе ён знаходзіўся. Недалёка ад яго пачалі сяліцца людзі, адсюль і пайшла назва прывала – Прывалка.

Яшчэ адна легенда. Вёска знаходзілася недалёка ад тракту з Варшавы ў Вільню. Каля вёскі ёсць крыніца. І вось, па паданні, некалі тут праязджаў расійскі імператар Пётр I, зрабіў каля крыніцы прывал – адсюль і назва Прывалка.

Так вёска атрымала некалькі варыянтаў назвы Правалка – Прывалка – Прывалкі. Старэйшыя вяскоўцы гавораць толькі Правалка.

Вядома Прывалка з XVI стагоддзя. Упершыню мястэчка згадваецца ў 1569 годзе, фігуруе ў спісах скарбовых маёнткаў, якія належалі каралеўскай адміністрацыі. Наступнае ўпамінанне мястэчка адносіцца да 1609 года, калі кароль Жыгімонт III Ваза заклаў парафію ў Прывалцы, падараваў касцёлу 6 валок зямлі і па два грошы з гаспадарак царкоўнай дзесяціны. У 1620 годзе гэты ж кароль у Варшаве 1 сакавіка выдаў дэкрэт, па якім ахвяраваў для ўтрымання парафіі і святара зямельны надзел. І адным з найбольш значных успамінаў аб Прывалцы з'яўляецца 1792 год, калі мястэчку быў нададзены герб.

На гербе была выява Арханёла Міхала ў ружовым полі з разгорнутымі ў палёце крыламі. У правай руцэ была маланка, а ў левай – круглы шчыт. Пад нагамі – полымя, у якім пераможаны ім д'ябал.

Арханёл Міхал лічыўся князем, старэйшым сярод нябесных вояў, што змагаліся з сіламі пекла. На гэтым гербе прадстаўлена выява з не зусім традыцыйнымі атрыбутамі. Больш часта характэрныя дэталі яго ўзбраення – меч і вагі. Але такая змена ў гербе была зроблена наўмысна – для адметнасці сімвалаў, бо выява Арханёла Міхала з гэтым узбраеннем была на гербе Навагрудка. Ужыванне цалкам аднолькавай сімволікі пярэчыла б законам геральдыкі, што забараняла выкарыстоўваць на гербе тоесныя эмблемы. У перакладзе са старажытнай яўрэйскай мовы Міхал азначае «падабенства Божае», а Габрыэль – «моц Божую». Наогул, герб вытрыманы ў лепшых традыцыях геральдыкі. Усяго гербаў з выявай Арханёла Міхала тры: у Навагрудку, Прывалцы і ў адным з княстваў Балгарыі.

Мясцовасць была заселена даўно і займала выгаднае становішча. Па спісах скарбовых маёнткаў мястэчка было ўласнасцю каралеўскага двара, знаходзілася недалёка ад каралеўскага тракту з Варшавы ў Вільню. Абавязкам жыхароў было забяспечваць караля і прыдворных падарожнікаў харчаваннем, коньмі, плаціць аброк. У гэты перыяд Рэчы Паспалітай Прывалка была цэнтрам староства ў складзе Гродзенскага павета і Трокскага ваяводства. У склад староства, па няпоўных дадзеных, акрамя Прывалкі, уваходзіла 13 занёманскіх вёсак. Сярод іх Гердашы, Леплюнцы, Крэванцы, Нелюбанцы, Падліпкі, Свентыянск, Грушаўшчызна, Бугеда, Мізеры, Шустранцы і іншыя. Так працягвалася да 1766 года, пакуль каралеўскі маёнтак не адкупіў князь Францішак Ксаверы Агінскі, заплаціўшы ў каралеўскую казну 1 533 злотыя і 3 грошы. У мястэчку быў пабудаваны панскі двор, які існаваў да канца XIX стагоддзя. У 1777 годзе князь Францішак Агінскі аднавіў стары касцёл і багата яго аздобіў. Да гэтага часу захаваўся старажытны 40-кілаграмовы звон (на жаль, трэснуты). Цэнтральнай падзеяй разглядаемага перыяду Прывалкі стала 21 лютага 1792 года, калі мястэчку былі нададзены прывілеі апошнім каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Аўгустам Панятоўскім. Гэтыя прывілеі зацвярджалі правы на самакіраванне і давалі магчымасць мець свой герб. Так, амаль 215 гадоў таму былі створаны ўсе юрыдычныя падставы, каб на гэтым месцы ўзнік горад.



*Да замкаў-дамоў сучаснікаў мы прызвычаіліся. Тут жа – аналагічная пабудова XIX ст. з в. Гадуцішкі на Гродзеншчыне*

А цяпер звернемся да падзей Айчыннай вайны 1812 года, якая не абмінула Беларусь. У сувязі з гэтым зноў згадваецца Прывалка. Вядома, што 25 лістапада 1812 года французская армія пачала адступаць ад раёна Гродна. 13 снежня яна лавінай рухалася па дарозе Гродна–Вільня, якая праходзіла праз Каменную Русоту–Чэрнушкі–Прывалку і далей на Друскенікі. Паводле ўспамінаў вяскоўцаў, каля суседняй вёскі Свентыянск, якая знаходзіцца за 5 км ад Прывалкі, захаваліся рэшткі драўлянага маста, які быў пабудаваны французамі і выкарыстоўваўся імі для пераправы цераз Нёман падчас адступлення.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Прывалка была далучана да Расійскай імперыі ў Гродзенскі павет Слонімскай (1795), Літоўскай (1797–1802) і Гродзенскай губерняў. З пачатку XIX стагоддзя была ў складзе Гродзенскай губерні, Гродзенскага павета і Сабалянскай воласці.

Пасля ўваходу Беларусі ў склад Расійскай імперыі Прывалка стала казённым маёнткам, хаця двор захаваўся. Аб гэтым сведчаць перапісы насельніцтва, якія праводзіліся рэгулярна чыноўнікамі. Так, паводле перапісу ад 1840 года, у Прывалцы было 13 чалавек, а яшчэ раней на дзесяць гадоў, у 1830 годзе, было 11 чалавек дваровых.

Наступнай значнай падзеяй было паўстанне 1863–1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Жыхары мястэчка Прывалка і навакольных вёсак прынялі актыўны ўдзел у паўстанні. Звесткі аб гэтым засталіся ў памяці вяскоўцаў.

Як расказваюць старажылы, у мясцовым касцёле быў арганізаваны шпіталь для паўстанцаў, забітых хавалі тут жа на тэрыторыі касцёла і на гары, якая атрымала назву Святой. На гэтай высокай гары паблізу Нёмана быў узнесены крыж у гонар загінулых (на сённяшні дзень гэты крыж адноўлены). Пасля задушэння паўстання ўдзельнікі былі сасланы на катаргу ў Сібір, парафія ў 1860 годзе ліквідавана, а касцёл закрыты. У 1869 годзе касцёл разам з парафіяльнымі будынкамі і зямлёю быў перададзены ва ўладанне праваслаўнай царквы ў Друскеніках. У 1886 годзе ў Прывалцы налічвалася 33 двары з насельніцтвам 386 жыхароў, сярод якіх праваслаўных не было. У гэтай царкве было адпраўлена толькі адно праваслаўнае набажэнства, а ў 1914 годзе яна згарэла. З 1918 па 1939 год Прывалка знаходзілася ў складзе Польшчы. У гэты час была адкрыта першая пачатковая школа, у якой навучанне вялося на польскай мове. Да гэтага дзяцей вучылі дырэктары, якіх прывозілі з іншых вёсак, паколькі ў вяскоўцаў не было сродкаў на пабудову і ўтрыманне сваёй школы. Сёлета Прывалкаўскай школе спаўняецца 80 гадоў.

***Хай не было ў гісторыі вёскі яркіх падзей сусветнага значэння. Гэта не важна. Унутранае жыццё вёскі на працягу шматвяковай гісторыі, калі казаць пра чалавечыя лёсы, мае не меншае значэнне, чым гісторыя населенага пункта з больш гучным імем.***

***Наталля ГАНЬКО,***
***філолаг, бібліятэкар ГДУ,***
***г. Гродна***

*Загадка*

# Як Авен стаў Вадалеем?

У дванаццатым нумары часопіса «Полымя» за 2006 год на старонках 33–39 змешчаны вершы Мар'яна Дуксы. Адзін з іх пачынаецца словамі:

*Я Вадалей па гараскопе –*
*паветраны эфірны знак.*



Але ў біяграфічнай даведцы паэта напісана, што ён нарадзіўся 5 красавіка (с. 33). А гэта значыць, што ён Авен. Спрабуючы высветліць, у чым тут справа, я па чарзе высунуў і адразу ж сам абвергнуў 2 версіі – ды так і застаўся ў роздуме: «Чаму ж Авен назваў сябе Вадалеем?»

**Версія першая.** Мар'ян Дукса захапляецца астралогіяй, добра ведае традыцыйныя характарыстыкі ўсіх знакаў задыяка і адчувае, што яго асабісты характар больш падобны да Вадалея, чым да Авена (такія неадпаведнасці часам здараюцца, астролагі нават знаходзяць ім свае абгрунтаванні). Але ў такім разе ён напісаў бы, што з'яўляецца Вадалеем паводле характару, тэмпераменту, светапогляду і г.д., але не *«па гараскопе»*.

**Версія другая.** Пачынаецца гэтак жа, як і першая: Мар' ян Дукса захапляецца астралогіяй. А яшчэ добра ведае астраномію. Вучоныя сцвярджаюць, што астралагічныя пастулаты не адпавядаюць сапраўднаму размяшчэнню планет: *«Так, калі 2000 гадоў таму кропка веснавога раўнадзенства сапраўды супадала з пачаткам сузор'я Авена, то цяпер яна знаходзіцца ў Рыбах, а хутка пяройдзе ў сузор'е Вадалея»* (гл. артыкул *«Астрология»* ў *«Философском энциклопедическом словаре»*, рэдактары-складальнікі Губскі, Караблёва, Лутчанка. М.: *«Инфра-М»*, 1999). Забраўшыся ў глыбокія астралагічна-астранамічныя нетры, Мар'ян Дукса вылічыў свой «сапраўдны» задыякальны знак. Але, як ні круці, нават у адпаведнасці з такім падыходам, Вадалеем ён не можа быць – толькі Рыбай, бо кропка раўнадзенства яшчэ не перайшла ў Вадалея. А калі нават і перайшла за 8 гадоў з часу выхаду філасофскага слоўніка, то, паводле ўсё таго ж артыкула *«Астрология»*, астролагі не прызнаюць астраноміі і сцвярджаюць, што галоўнае для іх – параметры магнітнага поля Зямлі, якія змяняюцца ў адпаведнасці з датамі календара, а не з рухам іншых планет (а назвы сузор'яў задыяка ўвогуле выступаюць толькі як умоўныя абазначэнні для класіфікацыі тыпаў людзей). Але ж тады зусім атрымліваецца, што не можа Мар'ян Дукса быць ні Вадалеем, ні Рыбай, а толькі Авенам – і кропка!

Сапраўды, таямнічая і загадкавая гэта навука (ці лжэнавука) – астралогія. Ды і свет паэзіі таксама поўны нечаканасцяў. А можа, проста нехта памыліўся з датамі, пішучы біяграфічную даведку?

***Сяргей АБРАМОВІЧ***

# Адкрыты філіял

Мінскія Духоўныя Акадэмія і Семінарыя, аддзел культуры Слонімскага райвыканкама і Слонімскі раённы краязнаўчы музей імя І. Стабpоўскага паведамляюць аб тым, што ў в. Жыровічы Слонімскага раёна адкрыты філіял Слонімскага музея з экспазіцыяй пад назвай «Рэдкая кніга і ікона».

Экспазіцыя філіяла музея, якая ўключае 50 унікальных экспанатаў, мае прадметы з калекцыі Слонімскага краязнаўчага музея і царкоўна-археалагічнага кабінета Мінскіх Духоўных Акадэміі і Семінарыі. Яна ўключае ў сябе старыя абразы, кнігі, драўляныя скульптуры, карціны, старыя канцылярскія прылады і многае іншае. У бліжэйшы час экспазіцыя будзе дапоўнена новымі матэрыяламі па гісторыі мястэчка Жыровічы, адкрыюцца выставы графікі і фатаграфіі. Плошча выставачнай залы складае 270 м$^2$. Экскурсіі праводзяць студэнты Мінскай Духоўнай Семінарыі.

Адрас філіяла музея: 231822, Гродзенская вобл., Слонімскі раён, в. Жыровічы, вул. Саборная, 56. Будынак Жыровіцкага аграрна-тэхнічнага каледжа, 1 паверх. Час працы: з 10.00 да 19.00. Выхадны – панядзелак.



*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

## Люты

**20 – Прывілей 1387 года, першы агульназемскі заканадаўчы акт ВКЛ – 620 гадоў з часу напісання.**

**20 – Валерый Мазынскі (1947), рэжысёр – 60 гадоў з дня нараджэння.**

**21 – Міхаіл Фінберг (1947), дырыжор – 60 гадоў з дня нараджэння.**

**21 – Нацыянальны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь – 20 гадоў з часу стварэння.**

**22 – Іван Міско (1932), скульптар – 75 гадоў з дня нараджэння.**

**25 – Алесь Пісьмянкоў (1957–2004), паэт – 50 гадоў з дня нараджэння.**

**26 – «Літаратура і мастацтва» (Мінск, 1932), штотыднёвік – 75 гадоў з часу заснавання.**



*Памяць пра летнія турпаходы*

*Фотажарт Міколы ПІВАВАРА*

## Сусветны дзядзінец

**321 г. Рымскі імператар Канстанцін указам нядзелю абвяшчае выхадным днём.**

**XVIII ст. Развіццё ў Нясвіжы балетнай і музычнай школ, капэлы, тэатра.**

**1742 г. Б. Франклін патэнтуе кухонную пліту.**

**1856 г. Амерыканскі арктычны даследчык, адмірал Р. Піры на павозцы, запрэжанай сабакамі, першым дасягае раёна Паўночнага полюса.**

**1950 г. У ЗША пачынаюцца рэгулярныя перадачы каляровага тэлебачання.**

**1991 г. У Алма-Аце падпісваецца Дэкларацыя пра ўтварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД). Сталіцай быў абраны Мінск.**

# Сэнс жыцця

## Эцюд

*Восень упрыгожвала горад рознакаляровымі сукенкамі. Усё навокал гарэла, як у пажары, сонейка гуляла промнямі на тварах праходжых, яно не хацела развітвацца з людзьмі, і усё навокал дыхала гэтымі апошнімі дзянькамі, насалоджвалася імі...*

*Толькі Яна не разумела ўсмешак, не бачыла промняў сонейка. Ціха складала падручнікі ў стол і даставала новыя, каб зноў да другой гадзіны ночы вучыць гэтыя нікому не патрэбныя і забытыя падзеі з гісторыі. Цяпер ужо другі час і зусім іншая гісторыя, з новымі поглядамі на жыццё і разуменнем яго сэнсу... Ціха ў душы яна чакала хмарак і дажджу, чакала першага снегу, чакала моцнага марозу, каб ні аб чым не думаць, а толькі хацець хутчэй прыйсці дамоў і захутацца ў цёплую коўдру. Гэта было жахліва, але ж сэнс жыцця яна бачыла толькі ў хуткім прабегу часу! Яна спяшалася жыць! Гэтая зіма для Яе маленькі сэнс таго вялікага, дзеля якога яна дыхае і глядзіць у неба. І нічога змяніць ужо нельга, так напісана ў яе кнізе жыцця. То паласа белая, то паласа чорная, і яны абавязкова чаргуюцца, і белую мы чакаем, а з чорнай ніхто мірыцца не хоча, але ж гэта будзе, і мы толькі павінны навучыцца ЧАКАЦЬ! Гэта цяжка, але мы павінны! Для чаго павінны? Для здзяйснення мар, для дасягнення сваёй мэты – гэта ўсё і ёсць сэнс!..*

*Яна асцярожна паправіла валасы і нахіліла твар, яе губы гарэлі полымем, гарэлі ўспамінам. Вушы не хацелі слухаць «пошлых» слоў і гукаў: яны бераглі Яго шэпт і любімую для Іх мелодыю лета. Яна адчыніла акно, і вячэрнія промні быццам вырваліся на волю, каб высушыць салёныя слёзы на яе чыстым твары. Яна заплюшчыла вочы і на кароткі момант акунулася ў мінулае, пра што так марыла ўжо даўно. Усё праляцела хутка, сэрца білася, шчокі ўспыхнулі полымем, усмешка прабегла па твары, а Яго голас здаўся блізкім...*

*За гэты час Яна ўжо ўсё вырашыла, і толькі цяпер кожную ноч малілася Богу, складала рукі і глядзела ўверх, каб здзейсніліся мары, каб дапамог ёй у гэтым Божа!*

*У гэты дзень усё было звычайным, толькі гэтае сонейка, якое неяк вельмі моцна абняло яе, не давала спакою. Але ўначы Яна ўсё зразумела... маленькія кропелькі застукалі па акне – проста сонца развіталася, яно таксама будзе сумаваць. Яму будзе дрэнна, як і Ёй. Усю ноч думала яна аб гэтым. А з самага ранку схапіла плашч і пабегла на бераг Дняпра. Яна хацела яшчэ хоць на хвілінку ўбачыць сонейка, хацела выбачыцца за тое, што хавалася ад яго, хацела сказаць, як сумаваць будзе і чакаць будзе абавязкова!*

*Лісце шапацела пад нагамі, дождж біў па твары, хаваючы Яе слёзы, вецер кудлаціў Яе светлыя валасы. Нават неба было злосным, хмары ляцелі, ляцелі, ляцелі...*

*Яна прыбегла, задыхаўшыся, стомленая, і ўпала на зямлю, халодную і мокрую. Вочы шукалі ў небе хоць праменьчык, хоць ледзь бачны свет сонейка «Выбач!», – шаптала Яна. – «Выбач мне. Я нават і не думала, што ты таксама пакутуеш, а я сваімі слязамі рабіла табе толькі горш! Я дрэнная дзяўчынка! Выбач, прашу цябе! Буду моцнай, я змагу! Мы будзем хутка зноў радавацца! Шчасце, яно ў кароткіх момантах, яго толькі трэба разглядзець... я ўсё зразумела. Выбач...».*

*«Выбач», – адгукнулася рэха. Яна моцна сціснула далоні і, набраўшыся сілы, усміхнулася, і Яе вясёлы смех праляцеў над ракой. У гэты самы момант, як залатыя ніці, пасыпаліся з неба промні. Яны то знікалі, то зноў прабягалі па твары.*

*Яна назбірала прыгожы букет з лісця і з дзіцячай усмешкай пабегла дамоў.*

*Сёння Яна зноў засынае ў абдымку з падручнікам, але на вуснах усмешка. Яе каханы званіў, яны доўга размаўлялі, разам смяяліся і плакалі, здавалася, што бачылі вочы адзін аднаго. Ён шмат разоў сказаў, што кахае, сказаў, як яму цяжка, як не хапае яе – сонейка! У Яго на стале таксама стаіць восеньскі букет з лісця. Ёсць чырвоныя, як іх каханне, ёсць яшчэ зялёныя, як успамін пра лета, ёсць залатыя, як Яе валасы... «Хутка зіма, мы будзем зноў разам, а потым будзем зноў чакаць лета». Але ўсё зменіцца, жыццё пачнецца, пачнецца іх жыццё! З адным сэнсам, з сэнсам быць шчаслівымі, з сэнсам пакінуць пасля сябе варты ўспамін, якім можна будзе ганарыцца...*

*Вось ён, гэты сэнс, сэнс жыцця, якое ў нас адзінае! Сэнс быць не толькі шчаслівым, але і зразумець гэтае шчасце. Бачыць яго ў жоўтым лісці, навагодняй елцы, першых кветках і першых птушках. У песні! У смеху! У бляску вачэй і гэтым яскравым сонцы!*

***Караліна МАРКЕВІЧ,***
***вучаніца 11 класа,***
***г. Жлобін***



*Будзе доўгачаканае лета!*

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВКЛ** (*працяг*). ***Сельская гаспадарка.*** Асноўнай была сялянская гаспадарка – **дым** (тут і далей выдзеленыя словы тлумачыліся ў «КГ» раней). Яна перадавалася ў нашчадства. Насельнікі адной вёскі былі ў **грамадзе**, што мела свае пашы, лясы і воды. Пераважала 3-польная сістэма земляробства. За карыстанне зямлёй да XVI ст. падуладныя сяляне плацілі натуральную рэнту (**даніну**); пазней адпрацоўвалі **паншчыну**, плацілі грашовы **чынш**. Сяляне-слугі адпрацоўвалі рэнту ў форме паслуг феадалу. На ніжэйшым узроўні знаходзілася **чэлядзь**. Сярод дзяржаўных павіннасцей было будаўніцтва і рамонт замкаў, дарог, мастоў, а таксама **шарваркі, сярэбшчына**. З XVI ст. феадальнае права ўсё больш не дазваляла пераходы **«пахожых людзей»** ад аднаго землеўладальніка да іншага, ператвараючы іх у **«непахожых людзей»**. Юрыдычнае афармленне прыгоннага права пачата Прывілеем 1447 г., згодна яго свабодныя сяляне ператварыліся ў **«айчызных людзей»**. З канца XV ст. у маёнтках феадалаў узнікаюць **фальваркі**. Гэтаму спрыяла **валочная памера** – аграрная рэформа, што пачала актыўна ажыццяўляцца пасля прыняцця «Уставы на валокі» 1557 г. Па феадальных павіннасцях пачалі адрозніваць **цяглых** сялян, **асадных** сялян і слуг; апрача іх былі таксама **агароднікі, кутнікі, бабылі** і інш. Усе сяляне ВКЛ шмат пакутавалі не толькі ад эпідэмій, але ад наступстваў частых войнаў. Падлічана, што з 1650-х гг. да пач. XVIII ст. лік насельнікаў паменшаў удвая, многія вёскі і гарады былі спустошаныя, гаспадарка заняпала. Гэтая акалічнасць змушала землеўладальнікаў пераводзіць сялян са стану паншчыны да чыншу, у выніку сельская гаспадарка да сярэдзіны XVIII ст. аднавілася. Аслаблі феадальна-прыгонніцкія адносіны, пачала ўзвышацца таварнасць шляхецкіх гаспадарак, пашырацца мануфактурная вытворчасць. З'явіліся вотчынныя і каралеўскія **мануфактуры, гуты**, фабрыкі і заводы, а з апошнімі пачаў фармавацца слой наёмных рабочых. Узмацніліся рынкавыя адносіны. У сувязі з уваходжаннем беларускіх зямель у канцы XVIII ст. у склад Расійскай імперыі на іх аднавілася, а пасля і ўзмацнела прыгонная сістэма, што трымалася да 1861 г.



***Сцэны з сельскага жыцця (мал. А. Даманскага з інвентара Берасцейска-Кобрынскай эканоміі, 1742 г.)***

***Гарады.*** Да XIII ст. на беларускіх землях было 35 гарадоў. Да XV ст. аблічча гандлёвых і рамесных цэнтраў набылі былыя крэпасці, замкі, асобныя гаспадарскія двары. У XVI ст. узнікла каля 200 **мястэчак** – своеасаблівых па характары і змесце беларускіх паселішч. У XVII ст. у ВКЛ было 757 гарадоў і мястэчак, з іх на Беларусі 42 гарады і 425 мястэчак, што выконвалі важныя адміністрацыйныя, эканамічна-культурныя, ваенныя функцыі, былі цэнтрамі рынкаў, усё больш уключаючыся ў сферу еўрапейскага гандлю. Па меры ўзмацнення гарады, імкнучыся пашырыць сваё самакіраванне, пачалі атрымліваць яго паводле **магдэбургскага права**. У ліку першых у ВКЛ яго атрымалі Вільня (1387), Брэст (1390), Гродна (1391); да XVII ст. самакіраванне мелі 42 гарады і мястэчкі Беларусі. У найбольшыя суполкі гараджан уваходзілі рамеснікі, аб'яднаныя ў цэхі, гандляры, купцы розных гільдый. Усё гэта сведчыла пра ўсебакова высокі ўзровень развіцця як ВКЛ у цэлым, так і ў складзе яго беларускіх зямель у прыватнасці.

***(Заканчэнне будзе)***

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск,
вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26,
234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 01.02.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1.
(Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 88
Тыраж 1450 асобнікаў.